ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

3 САКАВІКА 1995 г. № 9 (3781) Кошт 200 руб.


## ДОМ НА РОСТАНЯХ

***Васіль АЎРАМЕНКА: "Мая хата з краю", — асцярожна спрабаваў адгарадзіцца і захаваць сябе беларус, ды зноў і зноў апынаўся то ўсходнім, то заходнім "ускрайкам", а то проста "прахадным дваром". Але нарэшце і да яго дайшло — навошта жыць "з краю", калі можна і "ў цэнтры", трэба толькі гэтага захацець".***

**5**

## "ПАЭЗІЯ — НЯЎЛОЎНЫ САКРЭТ..."

***Маргарыта ЯФІМАВА: "Міжволі думаеш: як жа не хапае нам імгненнай гатоўнасці абараніць чалавека, права паэта на арыгінальнасць, самавыяўленне..."***

**6—7**

## З МУЗЫЧНАГА ПАДАРОЖЖА Ў "ЯГЕЛОНКУ" І...

***Вольга ДАДЗІЁМАВА: "Галоўным здабыткам апошняй паездкі лічу рукапіс оперы Міхала Клеафаса Агінскага "Зеліс і Валькур, альбо Банапарт у Каіры..."***

**10**

## "НАЧИНАЕТ ПОКАЗЫВАТЬ РОЖКИ..."

***Алесь МАЖЭЙКА: "І родная мова народа, і выпакутаваная стагоддзямі нацыянальная сімволіка — для іх толькі "гульня", якую можна прадаўжаць, а можна, калі некаму моцна захочацца, і перапыніць. І недзе там, у замагіллі, ім усміхаецца генсек Сталін..."***

**16**




## "ЯЎГЕН ГЛЕБАЎ ПРАДСТАЎЛЯЕ"

Гэта быў адметны канцэрт-прэзентацыя, дзе знаны наш майстар, кампазітар і педагог Яўген Глебаў прадстаўляў сваю музыку ды сваё творчае асяроддзе. Народны артыст СССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, акадэмік Міжнароднай славянскай акадэміі, прафесар — гэта не проста тытулы ды ганаровыя званні. Гэта — Жыццё... І праграма згаданага канцэрта, якім Я. Глебаў адзначыў свой 65-ты дзень нараджэння (таго не афішуючы, бо дата была яшчэ летась у верасні), — сама праграма падавалася часцінкаю жыцця мастака. Пад рафінаванае гучанне камп'ютэрнага сімфанічнага аркестра В. Раінчыка ды І. Цвятковай, вучняў маэстра, ажывалі старонкі глебаўскіх балетаў "Выбранніца", "Маленькі прынц", "Ціль Уленшпігель" у пастаноўцы даўніх творчых сяброў кампазітара — В. Саркісьяна ды В. Лапо. Выступаў аркестр "Менск" пад кіраўніцтвам Г. Новікава — малады калектыў, якім апякуецца Я. Глебаў. Вядучыя музыканты (Акадэмічны сімфанічны аркестр, дырыжор В. Собалеў, Дзяржаўны камерны хор, салісты) выканалі араторыю Радзіёна Глебава, сына маэстра, яго творчага паслядоўніка, — "Быў , ёсць, буду" на вершы У. Караткевіча... І не было б свята без эфектнай сцэнаграфіі Б. Герлавана і — без спонсарскай падтрымкі АРКБ "Комплекс-банк"...

Імгненні імпрэзы — на здымках Віт. **АМІНАВА.**





# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

*Прайшла зіма... А ці была яна? Тое, што памятаецца, зімою не назавеш. Увесь люты — дажджы і звычайная апошнім часам цеплыня. І вясна прыйшла больш падобная на восень, чымсьці на сябе тую, якую ведаем мы з дзяцінства, а нашыя дзеці — з кніжак. Няма жэўжыкаў-ручайкоў, якія спяваюць песні вясне... І невядома: ці то нашае шэрае жыццё ўплывае на прыроду, ці то прырода ўплывае на нас і стварае шэры настрой, які зусім не пасуе блізкаму абуджэнню, адраджэнню, блізкім зменам, што прыйдуць, абавязкова прыйдуць, нягледзячы ні на што...*

## ДАПАМОГА ТЫДНЯ

На пасяджэнні Рады ЭКОФІН — фінансавага органа ЕС — прынята рашэнне аб аказанні Беларусі фінансавай дапамогі ў памеры 75 мільёнаў ЭКЮ (каля 95 млн. долараў ЗША). Грошы вылучаны ў сувязі з тым, што, на думку Еўрапейскай камісіі, эканамічная сітуацыя ў Беларусі ў апошнія месяцы значна палепшылася (?), і новая праграма, абмеркаваная з МВФ, мае неабходныя і дастатковыя ўмовы дзеля дасягнення эканамічнай стабілізацыі і структурнай перабудовы ў Беларусі... Каб жа ЕС яшчэ і прасачыў за тым, на што пойдуць выдзеленыя грошы: на стабілізацыю эканамічнай сітуацыі ў краіне ці на стабілізацыю становішча прэзідэнта ў гэтай краіне і на аплату даўгоў Расіі.

## ЛІЧБА ТЫДНЯ

У 89,65 мільярда рублёў (па стану на 15 лютага) абыдуцца падаткаплацельшчыкам нашай краіны (усім нам) выбары ў новы парламент. Прычым гэтыя расходы будуць і надалей індэксавацца з папраўкай на інфляцыю. Затраты вялікія, але, трэба прызнаць, неабходныя. Толькі хай бы пайшлі яны на карысць беларускай дзяржаве...

## ЧУТКА ТЫДНЯ

Сяргей Антончык у сваім выступленні на сесіі Вярхоўнага Савета паведаміў, што прэзідэнт рыхтуе спецыяльны даклад, у якім будзе кампрамат на 80 працэнтаў цяперашніх дэпутатаў. С. Антончык лічыць, што гэты даклад можа быць скарыстаны як прычына для роспуску парламента.

## АБАЧЛІВАСЦЬ ТЫДНЯ

Зноў нагадаў пра сябе напярэдадні новых выбараў граф Аляксандр Прушынскі — цяпер ганаровы член партыі Хрысціянска-дэмакратычнага выбару. На прэс-канферэнцыі партыі ён паведаміў пра свой намер удзельнічаць у выбарах і прапанаваў дапамагчы яму знайсці дастойных кандыдатаў у дэпутаты. Партыя гатовая іх вылучыць і падтрымаць. А. Прушынскі сказаў таксама, што партыя ХДВ не будзе вылучаць сваіх кандыдатаў у тых акругах, дзе будуць балатавацца С. Шушкевіч, З. Пазняк, С. Антончык і іншыя вядомыя людзі. Бо, па яговых словах, "без іх — парламент не парламент".

## ВЫДАННЕ ТЫДНЯ

У лютым выйшаў першы нумар газеты "Za volu", якая была заснавана ў 1944 годзе. Дэвіз газеты "Bielaruś vysėj za ŭsio". Аднавілі выпуск газеты беларускія патрыёты, якія ў рэдакцыйным артыкуле сцвярджаюць: "Мы адбудоўваем падмурак Беларускае Дзяржавы разам з героямі нашай велічнай гісторыі. Памяццю гетмана Канстанціна Астрожскага, Вітаўта Вялікага, Кастуся Каліноўскага, генерала Станіслава Булак-Балаховіча: Уладзіміра Пракулевіча, Івана Шыньхо, Міхаіла Вітушкі, Янкі Філістовіча мы адраджаем беларускую праўдзівую газету "Za volu". Газета ёсць голасам беларускіх патрыётаў. Яна будзе распавядаць пра станаўленне беларускага правага руху, праўдзіва адлюстроўваць становішча ў Краіне, стан беларусаў у межах этнічнае Беларусі, у далёкім замежжы і г. д. "Za volu" стаіць на пазіцыі моцнае Беларускае Дзяржавы і будзе спрыяць ачышчэнню Краіны ад камуністычнага бруду, чужацкае навалы і загартаванню нацыянальнага духу". "ЛіМ" вітае аднаўленае выданне і зычыць яму поспехаў на абраным шляху.

## "РАЗВОД" ТЫДНЯ

Пакуль правыя сілы ніяк не могуць згуртавацца, левыя працягваюць раз'ядноўвацца. Аб сваім выхадзе з Народнага руху Беларусі, які папярэднейшаму ўзначальвае С. Гайдукевіч, заявіла Наталля Машэрава — рэдактар "Новай народнай газеты", органа НРБ.

## ЦЫНІЗМ ТЫДНЯ

Беларускія газеты, у тым ліку і "Звязда", без аніякіх каментарыяў надрукавалі гутарку карэспандэнта "Інтэрфакса" з саветнікам прэзідэнта Беларусі А. Сазонавым "...Ніколькі не сумняваюся, што нашы планы будуць ажыццяўлены незалежна ад палітыканства вечнай апазіцыі..." Ужо ў самім назове бачны непрыхаваны вялікарасейскі шавінізм, калі прыгадаць, што гэта за "планы", і што ў "вечнай апазіцыі" на Беларусі знаходзяцца прадстаўнікі карэннай нацыі, нацыянальнай большасці краіны. Пачытаўшы "откровения" А. Сазонава, хочацца спытаць: хто нараіў прэзідэнту незалежнай дзяржавы займець гэтакіх дарадцаў і адкуль яны ўзяліся? Пра тое, што і як будзе рабіць прэзідэнт, наслухаўшыся гэтакіх дарадцаў, якія адмаўляюць усё беларускае і адкрыта здзекуюцца з нас, і пытацца не хочацца. Мы сутыкаемся з гэтым ледзь не кожны дзень.

## ЗЛАЧЫНСТВА ТЫДНЯ

47-гадовы Уладзімір Л., затрыманы па падазрэнні ў крадзяжы, памёр падчас допыту ў аддзеле міліцыі Віцебскага раёна. Урачы "хуткай дапамогі", якую выклікалі супрацоўнікі міліцыі, не змаглі выратаваць знявечанага чалавека. Судмедэкспертыза канстатавала насільную смерць: у нябожчыка была разарвана пячонка, пераламаны скабы...

## АБСУРД ТЫДНЯ

У вагонах Мінскага метро расклеены аб'явы: Рэспубліканскі культасветцэнтр пры кіраўніцтве справамі прэзідэнта Беларусі запрашае на канцэрт М. Шуфуцінскага. Вядома, супрацоўнікам Адміністрацыі прэзідэнта больш няма чым займацца, як "прасвятляць" нягеглых беларусаў расейскімі белаэміграцкімі і зэкаўскімі песнямі.

## ТРАГЕДЫЯ ТЫДНЯ

У сераду, 1 сакавіка, у пад'ездзе свайго дома забіты вядомы маскоўскі тэлежурналіст Уладзіслаў Лісцьеў. Яго, стваральніка "Погляду", "Поля цудаў", "Тэмы", "Гадзіны пік", любілі ва ўсіх краінах былога СССР, па ім смуткуюць і на Беларусі.

# ПАРУШАЕЦЦА ЗАКОН АБ ВЫБАРАХ

### ПРАГУЧАЛА З ПАРЛАМЕНЦКАЙ ТРЫБУНЫ

Я хачу звярнуць вашу ўвагу на такую акалічнасць — сёння, 1 сакавіка, афіцыйна пачынаецца выбарчая кампанія па выбарах новага складу Вярхоўнага Савета Рэспублікі-Беларусь. І сёння акруговыя выбарчыя камісіі павінны былі распачаць рэгістрацыю ініцыятыўных груп па зборы подпісаў за вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета. Паводле прынятых нарматыўных актаў рэгістрацыя такая праводзіцца на працягу 5 дзён, пачынаючы з 1 сакавіка, з тым, каб ужо 5 сакавіка можна было пачаць збор подпісаў.

Што ж атрымліваецца на самай справе? У Мінску, напрыклад, улады яшчэ не гатовы да правядзення выбараў. Акруговыя выбарчыя камісіі, фактычна, яшчэ як след не сфарміраваны і не гатовы пачаць прыём заяў аб рэгістрацыі ініцыятыўных груп. Як я даведаўся, фактычна толькі 6 сакавіка тыя камісіі змогуць прыступіць да рэгістрацыі ініцыятыўных груп. У сувязі з гэтым я хачу звярнуць увагу ўсіх "вертыкальных" улад, што падобнымі дзеяннямі парушаецца Закон аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Я звяртаюся да кіраўніцтва Мінскага гарвыканкама, райвыканкамаў сталіцы з заклікам прыняць неадкладныя меры да выпраўлення становішча. Інакш усё гэта можна расцаніць, як байкот выбараў.

**М. КРЫЖАНОЎСКІ,**
**дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

# "ВЫ РАТАВАЛІ ВЕРУ Ў ЧАЛАВЕЦТВА"

Гэтыя словы нікому ў перапоўненай зале Мінскага Дома ветэранаў не падаліся ўзнёслымі. Яны прагучалі ў той момант, калі Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь Эліяху Валк і Першы сакратар пасольства Міхаэль Рынат уручалі Пачэсныя дыпломы і памятныя медалі Праведнікаў народаў свету жыхарам Беларусі, якія, рызыкуючы сваім жыццём і жыццём блізкіх, у часы фашысцкай акупацыі Беларусі ратавалі ад смерці яўрэяў.

Беларускія праведнікі падымаліся на сцэну ў суправаджэнні сваіх дзяцей, у тым ліку і прыёмных, выратаваных ад непазбежнай смерці. Амаль усе яны не маглі гаварыць ад хвалявання, ледзь стрымлівалі слёзы. І тады ім на дапамогу прыходзілі вядучыя ўрачыстасці артысты Марыя Захарэвіч і Валерый Анісенка. Пад гарачыя апладысменты прагучала ў зале агучаная В. Анісенкам цытата з кнігі "Мсціўцы гета" Р. Смоляра: "Нягледзячы на крывавы тэрор, повязі братэрства яўрэяў і беларусаў не слабелі. Без братэрскай дапамогі беларускага насельніцтва ніводны з яўрэяў не застаўся б у жывых".

Былая вязень мінскага гета, выратаваная беларускай сям'ёй Галахавых, Аляксандра Гінзбург расказала: "Даведаўшыся пра маючы адбыцца пагром, я з неймавернымі цяжкасцямі вырвалася з гета і ў адчаі пастукалася ў дзверы да Галахавых, якія да вайны жылі ў адным двары з маёй сяброўкай і якіх я амаль не ведала. Дзяніс Івановіч Галахаў адразу сказаў, каб я заставалася. Яны рызыкавалі і сабой, і сваёй 3-гадовай дачкой. З таго часу нікога бліжэй, акрамя іх, у мяне не было і няма. І ў горы, і ў радасці мы заўсёды былі разам".

Вядучая абвяшчае, што па рашэнні спецыяльнай камісіі Інстытута Яд ва-Шэм ад 10 ліпеня 1994 года спадару Галахаву Дзянісу Івановічу і яго жонцы Ніне Сцяпанаўне (пасмяротна) прысвоены высокі тытул Праведнікаў народаў свету і з гэтага часу іх імёны будуць значыцца на мемарыяльнай дошцы ў Алеі Праведнікаў у Ерусаліме.

У гэты вечар зала Дома ветэранаў таксама вітала прысваенне годнасці Праведніка народаў свету сям'і Дайліткаў, Леакадзіі Співак, Вользе Сідарэнцы, Настассі Хурс, Эміліі Вараксе, Васілю Хурсу. Дыплом і медаль Праведнікаў былі таксама ўручаны Ганне Андрэеўне Занкевіч, дачцэ Андрэя Мікалаевіча Стажко, якому яны былі прысуджаны яшчэ ў 1966 годзе, але не маглі быць ім своечасова атрыманы па той прычыне, што ў той час у нас не існавала дыпламатычных зносін з дзяржавай Ізраіль.

**І. РЭЗНІК**

# ГАРМАТЫ ЗАМЕСТ МАСЛА?

### ЭКСПРЭС-КАМЕНТАРЫЙ

Нядаўна ў Мінску пабывала дэлегацыя высокапастаўленых прадстаўнікоў Міністэрства абароны Злучаных Штатаў Амерыкі. Яе ўзначальвала намеснік памочніка міністра абароны ЗША доктар Глорыя Дафі. Візіт гэты ў нейкай ступні можна разглядаць як своеасаблівы рэйд па праверцы расходавання сродкаў, выдаткаваных Беларусі ў рамках так званай праграмы Нана-Лугара.

У сувязі з гэтым цікава зірнуць на некаторыя праблемы з якімі сутыкнулася (і сутыкаецца) Беларусь у ходзе канверсіі. Палітыка канверсіі ваеннай вытворчасці, ажыццяўленне якой пачалося яшчэ ў 1989 годзе ў былым СССР, перажыла тыя ж самыя катаклізмы, што і ўся развалена краіна ў цэлым. Яны агульнавядомыя, і спыняцца на іх яшчэ раз няма патрэбы.

Што тычыцца Беларусі, то тут глыбіня канверсіі на розных прадпрыемствах істотна розніцца. Галоўным чынам гэта звязана з тым, што многія, асабліва навукаёмістыя вытворчасці на Беларусі імкнуцца максімальна захаваць тэхналагічны профіль прадпрыемстваў і навукаёмістасць вырабаў.

Такая сітуацыя, — а адказваючы на маё пытанне аб эфектыўнасці беларускай канверсіі, сп. Дафі яе наяўнасць ускосна пацвердзіла, — высвечвае цяжкасці, якія стаяць перад новым кіраўніцтвам Беларусі. "Перакоўка мячоў на арала" даецца нашай краіне нялёгка.

Становішча ўскладніў агульны спад у эканоміцы. Многія прадпрыемствы знаходзяцца ў цяжкім фінансавым становішчы. Пратэрмінаваныя плацяжы абвастраюць нехватку абарачальных сродкаў. І толькі слабым суцяшэннем служыць той факт, што беларуская "абаронка" пазбегнула лакальных праблем. Напрыклад, такіх, як выбуховая сітуацыя ў шэрагу гарадоў і пасёлкаў экс-СССР, што ўзніклі вакол спецыфічных вытворчых прадпрыемстваў, якія цяжка перапрафіляваць. Менавіта там насельніцтва ва ўмовах глыбокай канверсіі аказалася практычна беспрацоўным.

У Беларусі галоўная мэта канверсіі вызначылася яшчэ пры ўрадзе В. Кебіча — правесці яе ў галіне распрацоўкі сістэм узбраенняў. Аднак, нягледзячы на ўжо амаль шасціґадовую гісторыю канверсіі беларускай "абаронкі", пакуль што тэхналогіі, што нарадзіліся ў буйнейшых "нумарных" НДІ і іншых "паштовых скрынях", далі надта мала рэальных вынікаў.

Нават калі меркаваць, што "халодная вайна" закончылася, а мудрасць прэзідэнта зберажэ нас ад удзелу ў лакальных канфліктах на ўсход ад Оршы, дактрына "гарматы замест масла" не знікла. Тэарэтычна яна павінна была змяніць палярнасць. На жаль, толькі ў ходзе рэалізацыі нашых "гармат" "масла" дастаецца толькі абранні-кам (скандалы вакол гандлю зброяй сталі досыць звыклымі).

Магчыма, гэта звязана з тым, што дагэтуль на Беларусі адсутнічае стратэгія канверсіі на нацыянальным узроўні. Г. зн., як сказалі нам некалі ў Маскве: "Танкі разрэзаць!", так мы дагэтуль іх і разразаем.

Сюды ж можна аднесці спробы скарачэння дзяржаўных ваенных праграм. Тут узнік нейкі клубок супярэчнасцей. Справа вось у чым. На прэс-канферэнцыі сп. Дафі, таксама як і прадстаўнікі Беларускага МЗС і Мінабароны, пераконвалі журналістаў, што такое скарачэнне сапраўды мае месца. Але літаральна на наступны дзень наш прэзідэнт заявіў, што армія ні ў чым патрэбы мець не будзе. Каментарыяў на гэтую тэму пакуль не было. Хоць можна меркаваць, што аргументацыя Аляксандра Рыгоравіча будзе заснавана на вядомым выказванні Н. Банапарта: "Народ, які не хоча карміць сваю армію, будзе карміць чужую".

Прынамсі, у нашай скажонай палітэканамічнай рэальнасці ажыццяўленне прэзідэнцкіх абяцанак вайскоўцам прывядзе толькі да наступнага. На фоне распілоўвання танкаў і дэмпінгавага распродажу ракетных комплексаў Беларусь будзе расходаваць сродкі на ўтрыманне войска, эквівалентнага па баявой магутнасці македонскай фаланзе.

Каб пазбегнуць такога развіцця падзей, і цяперашняму кіраўніцтву, і яго магчымым пераемнікам трэба засвоіць некаторыя пастулаты. Перш за ўсё памеры ваеннага патэнцыялу павінны вызначацца ўласнымі палітычнымі інтарэсамі і мэтамі, а пасля ўжо — дзеяннямі другога боку. У якасці асноўных крытэрыяў сюды варта аднесці: спалучэнне аднабаковых і двухбаковых мер у галіне абмежавання ўзбраення і разбраення; большую адкрытасць у галіне ваеннай дзейнасці; захаванне міжнароднага аўтарытэту краіны пры выкананні ўзятых міжнародных шматбаковых і двухбаковых абавязацельстваў.

За кадрам застаўся аналіз ваеннай дактрыны Беларусі, але... Папершае, пра яе, акрамя таго, што яна цнатліва нейтральная, мала што вядома. А, па-другое, адзін з сучаснікаў ужо цытаванага мною Н. Банапарта тады ж заўважыў, што вайна — занадта сур'ёзная справа, каб яе даваць вайскоўцам. Можа здарыцца, што гэты парадаксальны жарт праецыруецца і на беларускую канверсію.

**Аляксандр МАМЕТАЎ,**
**эканамічны аглядальнік "ЛіМа"**

# НА РОДНАЙ ЗЯМЛІ

Сучасную беларускую літаратуру сёння нельга ўявіць без адной з самых яркіх, самабытных і непаўторных яе старонак — творчасці народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна. Свой юбілей ён сустракаў разам з землякамі. Арганізатарамі правядзення на Віцебшчыне паэтычнага свята, прысвечанага шасцідзесяцігоддзю Р. Барадуліна, сталі літаратурны фонд пры абласным аддзяленні фонду Сораса, упраўленне культуры аблвыканкама, мясцовыя ўлады. Паэта шчыра віталі студэнты Віцебскага педагагічнага інстытута, якія спецыяльна падрыхтавалі і выступілі з рэфератамі па ягонай творчасці, Полацкага дзяржаўнага універсітэта. Мудра, светла і пранікнёна гучалі вершы Барадуліна на сустрэчах з палачанамі ў знакамітым Сафійскім саборы, з жыхарамі Ушаччыны, дзе ён нарадзіўся і вырас. Свята адбылося, а натхнёная, таленавітая паэтычная споведзь Майстра будзе працягвацца.



*На здымку: Р. Барадуліна віншуюць віцябляне на ўрачыстым вечары ў тэатры імя Я. Коласа.*

*Фота М. ШМЕРЛІНГА*

# ПАМЯЦІ ВЯЛІКАГА КАНЦЛЕРА

## ЗВАРОТ ДА ГРАМАДСТВА І ЎРАДА БЕЛАРУСІ

Сёлета — 480 гадоў з дня нараджэння выдатнага дзяржаўнага, палітычнага і хрысціянскага дзеяча Беларусі — князя Мікалая Радзівіла Чорнага (04.02.1515—28.05.1565).

Мікалай Радзівіл VI, выконваючы высокія і адказныя пасады ў нашай дзяржаве — Вялікага канцлера, віленскага ваяводы, старасты берасцейскага, ковенскага, барысаўскага, Адміністратара Лівоніі, праводзіў цвёрдую палітыку ўмацавання суверэнітэту Беларускага гаспадарства, умела ажыццяўляў аграрна-эканамічныя рэформы. Дзякуючы паслядоўнай незалежніцкай пазіцыі канцлера Радзівіла, наша дзяржава дасягнула найвышэйшага росквіту, а грамадскае жыццё будавалася на юрыдычных прынцыпах нацыянальнага права.

Найвялікшы дыпламатычны дзеяч, князь Мікалай Радзівіл ячшэ ў XVI стагоддзі дальнабачна вызначаў новыя прыярытэты знешняй палітыкі нашай дзяржавы, якія вялі да больш цеснай інтэграцыі з краінамі Заходняй і Паўночнай Еўропы.

Стараннем і мецэнацкай падтрымкай нашага Вялікага канцлера ў Беларусі былі створаны буйныя выдавецкія цэнтры, плённа прадоўжана асветніцкая традыцыя доктара Францішка Скарыны. Князь Мікалай Радзівіл добра валодаў беларускай, польскай, а таксама іншымі еўрапейскімі мовамі.

Уважаем за вялікі гонар абвясціць 1995 год у Беларусі Годам Мікалая Радзівіла Чорнага й заклікаем беларускія дзяржаўныя і мясцовыя органы кіравання, установы культуры, навукі і адукацыі ўшанаваць памяць вялікага дзеяча нашай дзяржавы — Найяснейшага князя Мікалая Радзівіла Чорнага.

Нагадваем праграму святкавання 480-х угодкаў з дня нараджэння князя Мікалая Радзівіла Чорнага.

14 сакавіка ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адбудзецца адкрыццё выставы "Мікалай Радзівіл Чорны — выдатны дзяржаўны, палітычны, культурны дзеяч Беларусі".

У маі будуць закладзены помнікі Мікалаю Радзівілу Чорнаму ў Нясвіжы і Мінску, у ліпені ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі пройдзе выстава "Мікалай Радзівіл Чорны і яго час", у верасні гэтая ж выстава пройдзе ў Нясвіжы.

Прапануецца надаць імя Мікалая Радзівіла Чорнага вуліцам, плошчам, навучальным, культурным установам у Мінску, Нясвіжы, Слуцку, Берасці, Клецку, Міры, Століне і іншых гарадах Беларусі.

**КАМІСІЯ ПА КУЛЬТУРЫ БНФ "АДРАДЖЭННЕ"**
**БЕЛАРУСКІ ЕВАНГЕЛІЧНЫ РЭФАРМАЦЫЙНЫ ЗБОР**
**ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСКАЕ ШЛЯХТЫ**
**ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"**

# ЗМЕНЫ Ў ФОНДЗЕ СОРАСА

Як паведаміла служба інфармацыі Беларускага фонду Сораса, на VI з'ездзе БФС, што адбыўся 25 лютага г. г., прыняты змены ў статуце гэтай грамадскай арганізацыі. Паводле іх, функцыі Праўлення БФС надалей пераходзяць да Назіральнай Рады — органа, які кіруе дзейнасцю Беларускага фонду Сораса ў часе паміж з'ездамі (старшыня НР — Наталля Андрэйчык, старшыня Беларускага рэспубліканскага Саюза адвакатаў). На бліжэйшым пасяджэнні Назіральнай Рады будуць зацверджаны прыярытэтныя накірункі дзейнасці БФС. Абрана таксама рэвізійная камісія і зацверджаны яе паўнамоцтвы.

Характэрна, што змены ў БФС здзейсніліся пасля нядаўняга візіту ў Мінск самога Джорджа Сораса.

**Ю. Л.**

# "СВОБОДНЫЕ..." АД ЧАГО?

Як вядома, перыядычны друк нашай дзяржавы не праміну ў адгукнуцца на нядаўні візіт у Рэспубліку Беларусь прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына. Пераважная большасць выданняў далі гэтаму аб'ектыўную і прынцыповую ацэнку. Не застаўся ўбаку і штотыднёвік "Свободные новости, плюс". А паколькі ён, як значыцца ў загалоўку, "інфармацыйна-аналітычны", дык ёсць багатая інфармацыя, прысутнічае належнае асэнсаванне яе.

Заставалася б толькі парадавацца за калег. Ды, на жаль, у бочцы мёду не абышлося і без славутай лыжкі дзёгцю. Калі б гэта тычылася разыходжанняў у ацэнках, дык такой бяды... Чаго-чаго, а плюралізму сёння хапае. Але гэтая лыжка з'явілася там, дзе звычайна яна з'яўляецца, калі некаму не падабаецца... Але, але — беларуская мова. Тады і хочацца абавязкова "укусіць". А дзе "кусанне" — хіба да прыстойнасці?

У інфармацыі "Выпадковае супадзенне" аўтар "Л. Ш." спраўядліва абураецца, што сустрэча Ельцына была наладжана па прынцыпе даўно вядомай Пацёмкінскай вёскі. На плошчы Перамогі дзеля вітання высокага госця размясціліі прадстаўнікоў колішняй партыйнай наменклатуры — таго ж былога сакратара ЦК КПБ Кузьміна, былога намесніка старшыні Вярхоўнага Савета Мікуліча і іншых персанальных пенсіянераў (што, дарэчы, і было відаць у тэлерэпартажы). Калі знайшліся ахвотнікі з бел-чырвона-белымі, а значыць дзяржаўнымі сцягамі, выказаць сваё стаўленне да візіту, то іх арыгінальна спынілі. Дырыжор ваеннага аркестра ўзмахнуў палачкай...

І якую асацыяцыю, думаеце, такое дзеянне выклікала ў аўтара "Свободных новостей..."? Каб дакладна перадаць аўтарскае перажыванне, паслухаем яго самога: "А даже на мове медные трубы не перакричать. Хорошая "деревня" получилась. И главное: без единого гвоздя".

Наконт гэтай самай "деревни" на старонках "свободной газеты", свабоднай, як бачна, ад звычайнага сумлення, можна было б паразважаць. Хаця навошта гэта рабіць? Што можна ў сувязі са згаданым выпадкам звычайнага хамства ў дачыненні да дзяржаўнай мовы сказаць, даўно сказаў... Хто б вы думаеце? Ды сам В. Бялінскі: "Кто не принадлежит своему отечеству, тот не принадлежит и человечеству".

Дарэчы, выказванне "неистового Виссариона" няма патрэбы доўга шукаць. "Свободные новости"..." на кожнай сваёй старонцы прыводзяць выказванні вялікіх людзей. У гэтым нумары знайшлося і месца Бялінскаму.

**Дз. ІВАК**

*ДНІ КУЛЬТУРЫ І МАСТАЦТВА УКРАІНЫ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ*

# ПРАТАКОЛ ПАДПІСАНЫ



Суседзі не заўсёды з'яўляюцца сябрамі, гэта рэч вядомая. Як вядома і тое, што норма для людзей і дзяржаў — суседства добрае — з узаемнай павагай, кантактамі, абменам, падтрымкай.

Інтарэсам добрасуседства і мацавання ўсебаковых сувязей паслужыць, безумоўна, падпісанне пратакола, якое адбылося ў рамках Дзён украінскай культуры ў Рэспубліцы Беларусь.

У прысутнасці афіцыйнай украінскай дэлегацыі на чале з віцэ-прэм'ерам І. Курасам і шматлікіх прадстаўнікоў прэсы два міністры, А. Бутэвіч і М. Якавіна, падпісалі дакумент, дзе канкрэтызуюцца планы, намечаныя яшчэ ў Кіеве ў 1993 годзе. Прадугледжана цэлая нізка захадаў па культурным абмене і супрацоўніцтве ў галінах музыкі, кінавытворчасці, музейнай справы, тэатра, паліграфіі. Праўда, з боку прэсы была заўвага адносна "музычнага" ўхілу ў кантактах між дзяржавамі, на што ёсць, напэўна, свае прычыны.

У плане самакрытыкі украінскі бок заўважыў, што падобныя пратаколы Украіна падпісала ўжо з многімі далёкімі краінамі, і толькі цяпер чарга дайшла да суседкі-Беларусі.

А. Бутэвіч адзначыў высокі патэнцыял украінскай культуры, сведчаннем якога — перапоўненыя залы нашай сталіцы, дзе выступалі госці. На заключным канцэрце ў той жа дзень (прысутнічаў і прэзідэнт Беларусі) майстры мастацтваў Украіны былі ўхвалены шчырымі воплескамі.

Спадзяёмся, канцэртамі справа не абмяжуецца. Напераздзе шмат працы. Бо паміж сэрцамі, як хтосьці сказаў, памежных слупоў не бывае.

*На здымках: Міністр культуры і друку Рэспублікі Беларусь А. Бутэвіч і міністр культуры Украіны М. Якавіна падпісваюць пагадненне; выступае Дзяржаўны ансамбль танца Украіны імя П. Вірскага.*

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛІНФАРМ*



# ПАВІТАЛІСЯ З МАСТАЦТВАМ СУСЕДЗЯЎ

На Дні культуры Украіны сярод іншага прывезена была мастацкая выстава, адкрыццё якой адбылося пад харальнае спяванне і ў прысутнасці адказных асоб у Нацыянальным мастацкім музеі. Увогуле, Украіна надзвычай ашчадна да сваёй культуры. І гэта датычыць не толькі захаванасці многіх архітэктурных помнікаў, але і выдатных музейных збораў (чаго вартая адна толькі калекцыя Львоўскага мастацкага музея!). Пасля чарнобыльскага выбуху украінцы амаль адразу распачалі на дзяржаўным узроўні экспедыцыі па вышуку "забруджаных" каштоўнасцей. Не ў прыклад нам, бо гэтай справай мы заняліся праз некалькі год пасля трагедыі, ды і то намаганнямі і прыватнай ініцыятывай супрацоўнікаў музея старажытнабеларускай культуры АН РБ. Украінскі нацыянальны мастацкі музей у дадатак здолеў падзяліцца на некалькі асобных, вылучыўшы рускі, старажытнаўкраінскі, музей сучаснага мастацтва (як тут нам зноў не пазайздросціць! Наша рэспубліка не мае пакуль ані такога праекта, ані памяшкання). Украінскае Міністэрства культуры знаходзіць і магчымасці запрашаць да сябе беларускіх майстроў — для прыкладу, неўзабаве ў Кіеве адбудзецца выстава Г. Вашчанкі, — і прывозіць у "суседнюю дзяржаву" мастацкую выставу, экспазіцыя якой складаецца з каштоўных твораў і патрабуе кантролю за іх захаваннасцю.

Праўда, засмуціла адно: ці не задужа маштабна замахнуліся украінскія калегі нават у назве выставы "5 стагоддзяў украінскага жывапісу"? Трацццякоўцы было б складана досыць поўна асвятліць такі велізарны кавалак мастацкай гісторыі народа! А тым больш зрабіць гэта на галерэі нашага мастацкага музея, захоўваючы ўсе еўрапейскія стандарты стварэння экспазіцыі. Там, бывае, і аднаму мастаку месца малавата. Можа, таму прывезеныя выдатныя іконы, творы розных стагоддзяў, размешчаныя ў гістарычнай паслядоўнасці, далі задужа скупое ўяўленне аб развіцці культуры суседняга народа. Па сутнасці не быў грунтоўна паказаны аніводны перыяд украінскага мастацтва. Некалькі палотнаў сучасных мастакоў гэтаксама не ўразілі, згубіўшыся сярод іншых музейных экспанатаў. Мо было б лепш прывезці да нас, скажам, выставу сучаснага украінскага мастацтва, тым больш, што мы не маем пра яго цэльнай і праўдзівай інфармацыі. Ці ж не дзеля гэтага прыкладаецца столькі намаганняў, як духоўных, так і матэрыяльных, з боку кожнай дзяржавы?

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

# НА СУД ЗЕМЛЯКОЎ

**Усяго за два месяцы свайго існавання творчае аб'яднанне мастакоў Жлобіншчыны на чале з Уладзімірам Ганжой і сумесна з мясцовым гісторыка-краязнаўчым музеем у памяшканні апошняга наладзіла пяць выставак мясцовых аўтараў. Для большасці з іх — гэта першая магчымасць у жыцці вынесці свае работы на шырокі суд ветэранаў жывапісу.**

**Яе выкарысталі і старэйшыя жлобінскія мастакі, ветэраны вайны Уладзімір Батурын і Канстанцін Міцкевіч. Некаторыя іх карціны будуць выстаўлены і на абласной выстаўцы ў Гомелі, прысвечанай 50-годдзю Перамогі.**

**М. ШУКАНАЎ**

# ЁСЦЬ КАМСАМОЛ, ЁСЦЬ І ПРЭМІЯ КАМСАМОЛА

**Ленінскі камсамол Беларусі... Пры гэтых словах адны здзівяцца — няўжо, маўляў, яшчэ існуе гэтая арганізацыя, другія ўсміхнуцца — бач ты, не перавяліся няўрымслівыя маладыя бальшавікі. Як бы там ні было, а камсамол Беларусі ёсць, няхай і не такая вялікая арганізацыя, як раней, але — ёсць. А калі ёсць камсамол, то, па традыцыі, ёсць і яго прэмія. Праўда, зноў жа — не такая, як раней. Тым не менш нядаўна адбылося яе чарговае прысваенне.**

**Названы два лаўрэаты. Адзін — пасмяротна: 26-гадовы старшына міліцыі Мікалай Хазянін утаймоўваў чарнобыльскі рэактар...**

**Другі — народны пісьменнік Беларусі Іван Чыгрынаў. Ён прэмію атрымаў, як сказана ў дыпломе, "за літаратурныя творы апошніх год, якія выхоўваюць моладзь на ідэях патрыятызму і высокай духоўнасці, а таксама за актыўную грамадскую дзейнасць на карысць Радзіме".**

# ДОБРА, ШТО ЁСЦЬ "ЛІХТАРЫК"

**У дні калядных святаў у Доме літаратара на прэм'еры паэтычных кніжак выдавецтва "Юнацтва" гасцямі беларускіх пісьменнікаў былі выхаванцы дзіцячага садка "Ліхтарык", што знаходзіцца ў новым мікраараёне сталіцы, на вуліцы, якая носіць імя Максіма Гарэцкага. Яны тады парадавалі ўсіх прысутных песнямі на роднай мове, прыстойным выканаўчым майстэрствам. А недзе месяцам пазней, 10 лютага, гасцямі садка былі ўжо самі пісьменнікі. Адбылося свята, прысвечанае віншаванню лаўрэатаў часопіса "Вясёлка" за 1994 год.**

**Гэтым разам імі сталі, як вядома, празаік Віктар Карамазаў, паэт Уладзімір Карызна і мастак Уладзімір Сытчанка. Пад шчырыя воплескі залы галоўны рэдактар часопіса Уладзімір Ліпскі ўручыў ушанаваным аўтарам узнагароды "Вясёлкі" — спецыяльныя медалі і дыпломы.**

**Як вядзецца, першымі перад дзецьмі выступілі лаўрэаты, потым астатнія госці — супрацоўнікі рэдакцыі, паэты Мікола Маляўка і Мікола Чарняўскі, а таксама добры сябар садка паэтка Ніна Галіноўская. Яны чыталі вершы, загадвалі загадкі, падарылі кніжкі са сваімі аўтографамі.**

**Адбыўся канцэрт дзіцячага музычнага ансамбля "Ліхтарык". Дзеці праспявалі шмат песень на словы беларускіх паэтаў, расказвалі вершы. Тут жа, на свяце, гасцей чакаў неспадзяваны падарунак: адбылася прэм'ера дзвюх новых песень "Дожджык" і "Ідзе па свеце сонейка" на словы У. Карызны і М. Чарняўскага. Іх напісала музычны кіраўнік ансамбля Святлана Галкіна, вядомая ў нас як аўтар шматлікіх песень для дзетак-малалетак.**

**"Свяці ўсім, "Ліхтарык", доўга і ярка", — пажадалі пісьменнікі дзетсадаўцам і іх выхавальнікам, пакідаючы гэты ўтульны спеўны куточак беларускай сталіцы.**

**М. Ч.**

# ДЭСАНТ "ЮНАЦТВА" Ў БАРАНАВІЧАХ

**Пасля наведвання Наваельні прадстаўнікі выдавецтва "Юнацтва" Міхась Зарэмба і Уладзімір Марук завіталі ў Баранавічы. Сустрэча з грамадскасцю горада, студэнтамі, школьнікамі і чытачамі адбылася ў чытальнай зале гарадской бібліятэкі імя В. Таўлая. Бібліятэкаркі на чале з загадчыцай Н. Міцягінай зрабілі выстаўку твораў гасцей. Адбылася цікавая і карысная размова аб рабоце выдавецтва "Юнацтва". Удзел у сустрэчы прыняла і літаратурнае аб'яднанне "Плынь" на чале з паэтам Г. Гапановічам. Разам з гасцямі свае творы прачытала мясцовая паэтка Л. Шувалава.**

**М. МАЛІНОЎСКІ**

# УРАТУЙ НАС, ТАЛІСМАН!

Яшчэ адна кніжка з'явілася ў Ніла Гілевіча. Гэтым разам не ў дзяржаўным выдавецтве. Каб яна прыйшла да чытача, парупіўся Выдавецкі цэнтр "Бацькаўшчына" на чале з нястомным рупліўцам на ніве нацыянальнага Адраджэння Яўгенам Лецкам. Кніжка — незвычайная. Пад адной вокладкай фактычна аб'яднаны два зборнікі. Першы з іх — "Талісман", які даў ёй назву, складаецца з новых вершаў, напісаных аўтарам на працягу лістапада 1993—мая 1994 гадоў. У другім — "Пазіцыя" — прадстаўлены артыкулы, выступленні, інтэрв'ю, датаваныя 1992—1994 гадамі.

Адкрываецца кніга словам, прамоўленым Нілам Сымонавічам, на адкрыцці ўрачыстага сходу ў гонар 75-й гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1993 г. Як бы свайго роду запеўка да размовы прынцыповай і важнай, заклапочанай і сумленнай, прасякнутай клопатам аб Беларусі і пачатай дзеля Беларусі. У імя яе будучыні, калі паняцці дзяржаўнасць, суверэнітэт усё ж набудуць свой рэальны сэнс, напоўняцца канкрэтным зместам, будуць усвядомлены ўсімі (прынамсі, пераважнай большасцю грамадзян), хто жыве на нашай зямлі.

З удзячнасцю згадвае Н. Гілевіч тых, хто на пачатку стагоддзя, у час найвышэйшых сацыяльных зрухаў не проста хацеў свабоды, а жыў ідэяй нацыянальнай незалежнасці: "Сабралася не купка адшчапенцаў і здраднікаў беларускага народа, як дагэтуль ляментуюць нашы "добразычліўцы", а без малога 2000 сыноў і дачок Бацькаўшчыны, пераважна ў салдацкіх шынялях і сялянскіх світках, шчырыя ў сваёй любові да Беларусі і самаахвярныя, — з адзіным наказам: ажыццявіць нарэшце адвечную запаветную мару беларускага народа — стварыць сваю дзяржаву, каб "людзьмі звацца". Гэта быў незвычайны парыў разбуджанага народнага духу, — такі парыў, якога пасля ўжо не было ніколі. Знаць, блаславёная зямля наша, калі так хутка, амаль імгненна, азваліся на покліч жыцця і часу тысячы яе шчырых рупліўцаў, заступнікаў і абаронцаў. Амаль усе яны пазней былі пакараны, загублены ці асуджаны на пакуты, а ўся "віна" іх перад гісторыяй Беларусі ў тым, што яны мацней чым іншыя любілі Бацькаўшчыну, глыбей разумелі яе трагічны лёс, ясней і лепш бачылі яе шляхі да запаветнай будучыні. Гэта былі людзі, якія і пасля, пазней, і на страшнай галгофе душы, услед за сваім паэтам, маглі горка выдыхнуць: "Мне сняцца сны аб Беларусі". Тое, чаго ніколі не маглі і не могуць сказаць мяснікоўцы і кнорынцы".

І яшчэ адзін істотны момант, уважліва прыкмечаны Н. Гілевічам: "Ідэя БНР не была навязана зверху або інспіравана аднекуль збоку, з пазамежжа. Яна была прадыктавана самім ходам народнага жыцця-быцця, як гістарычная непазбежнасць. І яна вынікла, яна паўстала, яна, калі хочаце, выбухнула з той магмы гневу і крыўды, якая з цягам стагоддзяў збіралася і кіпела і бурна клекатала ў неабсяжнай і бяздоннай душы народнай. Яна, гэтая ідэя, адбылася, здзейснілася як неадменны гістарычны факт. Таму адмаўляць яе або перакрэсліваць яе значэнне — проста неразумна, відочная недарэчнасць".

Прашу прабачэння за вялікія цытаты. Ды без іх проста нельга абысціся. Па-першае, з іх яскрава бачна, наколькі Н. Гілевіч аб'ектыўна, згодна гістарычнай праўдзе дае ацэнку і вытлумачэнне падзеям, якія доўгі час альбо замоўчваліся, альбо падаваліся ў скажоным выглядзе. Наколькі ён разумее, што, не вызначыўшы ролю і значэнне папярэднікаў-адраджэнцаў, наўрад ці можна паспяхова ладзіць наш дзяржаўны дом далей. А падругое, што таксама немалаважна, акурат гэтыя развагі і патрэбны тым чытачам, што знаходзяцца пакуль у палоне псеўдагістарычных, антынацыянальных ацэнак, для каго ідэі БНР нагадваюць жупел, якога неабходна заўсёды баяцца.

Н. Гілевіч тактоўна, паслядоўна, самім ходам сваіх развагаў нагадвае, напамінае: у палоне хлусні не тое што цяжка знаходзіцца, а небяспечна. І недаравальна злачынна, бо гэта можа толькі нашкодзіць уласнаму народу, беларускай будучыні. Той будучыні, у якой жыць нават не нам, а нашым нашчадкам. А яны спытаюць, строга спытаюць, ці зрабілі мы тое, што маглі зрабіць, ці выкарысталі апошні шанц для нацыянальнага Адраджэння.

Наконт таго, што ў нас наперадзе будзе светлая будучыня, у Н. Гілевіча аніякага сумнення няма. Пацвярджэнне таму і яго верш "І ўсё-такі дойдзем", што ўжо стаў не толькі хрэстаматыйным, а, можна сказаць, праграмным:

**За векам век плыве-цячэ,**
**А мы ідзем, ідзем... І што ж?**
**О, як далёка нам яшчэ**
**Да Беларусі!!.**
**..............................**
**Равуць вятры, грымяць грамы,**
**Пыл засціць вочы нам, і ўсё ж,**
**І ўсё ж мы дойдзем, дойдзем мы**
**Да Беларусі!..**

Дарэчы, згаданым творам кніга завяршаецца. Слова ў сувязі з 75-мі ўгодкамі абвяшчэння БНР, і гэты верш — удала знойдзенае аўтарам абрамленне кнігі. А, так сказаць, унутры яго — тое, чым жыў пісьменнік апошнім часам, што турбавала яго і непакоіла, да чаго імкнулася ягоная душа і чаго яна не прымала. Усё гэта — клопаты і паэта, і публіцыста, і грамадзяніна, аднаго з самых вядомых на сённяшні дзень грамадскіх дзеячаў — народнага дэпутата, старшыні Камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, які паслядоўна, мэтанакіравана, не зважаючы на кпіны, часам неразуменне, а нярэдка і зняважі, не збочвае з аднойчы абранай дарогі "да Беларусі".

Нават цяжка сказаць, у чым больш праяўляецца наступальнасць пазіцыі (у самым лепшым сэнсе) Н. Гілевіча — у яго вершах, артыкулах, выступленнях, адказах на пытанні інтэрв'ю. Рэзкай мяжы тут, бадай, не правядзеш. Паэзія яго таксама публіцыстычная, дзейсная, неабыякавая да паўсядзённых клопатаў і спраў. Пафасам грамадзянскасці прасякнута і ўласна публіцыстычная дзейнасць Н. Гілевіча. А ў рэшце рэшт, як працяг гэтага, дзейнасць грамадская. Таму і ўспрымаеш аднолькава зацікаўлена як вершы яго, так і "прозу", сатканую з саміх будняў.

Узяць хоць бы адзін з лепшых вершаў з гэтай кнігі "Люся Шульман". Твор напісаны як памяць аб мінулай вайне. Аб вайне, пра якую нельга забываць. Аб вайне, пра якую, здавалася б, многае сказана. Але Н. Гілевіч гаворыць тут сваё, адметнае слова. Пранікнёнае, уражальнае і разам з тым стрыманае. Ды за гэтай стрыманасцю — боль, што і з гадамі не забываецца, робіцца яшчэ больш пякельным:

**Люся Шульман, мой сябрук-равеснік,**
**Ты быў першы ў нашай Слабадзе,**
**Хто... Я помню, як узбоч ад весніц**
**Ты ляжаў на жухлай лебядзе...**

Боль найперш уласны, асабісты. Боль па нявіннай ахвяры вайны. І боль — многіх. Той боль, які падтэкстава сягае далёка за межы пэўнага выпадку:

**Брат мой Люся, у дзевяноста трэцім**
**Ты прысніўся мне не проста так.**

І ў невялікім вершы "Ты кпіш з маіх пакут?" не адно асабістае, а як бы "партрэт" пэўнай часткі грамадства, той часткі, для якой стала нормай абражаць, двурушнічаць, пагражаць і пры гэтым "заставацца" дабранькімі, хавацца за маскай. Толькі — ці доўга яна можа выратоўваць?

**Ты кпіш з маіх пакут?**
**З маёй бяды вялікай —**
**Маёй і многіх? Што ж!**
**Пасмейся! Пахіхікай!**
**Цябе не мог працяць**
**Разрыўны боль пякучы:**
**Ты маску зняў — і ўсё:**
**І ўсе твае пакуты!..**

А з якой ironіяй, сарказмам, абурэннем гаворыць Н. Гілевіч у вершы "Нічога дзіўнага" пра тых, хто стаіць на пазіцыях антыбеларускасці, жадае "ўсмерціць мовы зернеткі жывыя", ёй "чыстай, зіхаткой, як сонца ў росах", адмовіць у правах:

**Ці ў нас усіх правоў, што шапку зняць**
**І подлы страх адкашляць перад п'яўкай:**
**"Панок, дазвольце мне паначаваць**
**У роднай хатачцы маёй, пад лаўкай".**

Моўнае пытанне, пытанне дзяржаўнасці беларускай мовы скразной думкай праходзіць праз матэрыялы, аб'яднаныя назвай "Пазіцыя". Так, гэта пазіцыя Н. Гілевіча. Пазіцыя цвёрдая і непахісная. А ў роўнай ступені і пазіцыя кожнага з нас, каму дарагая Беларусь: "...мы глядзім наперад і верым у скоры надыход часу, калі Божы храм і народ на Беларусі будуць гаварыць не рознымі мовамі, а адною — моваю гэтай зямлі, калі адраджэнне веры Хрыстовай у душах чалавечых у поўнай меры будзе супадаць з адраджэннем беларускай нацыянальнай і дзяржаўнай самастойнасці, беларускай мовы і культуры".

Сказана гэта было на адкрыцці навуковай акадэмічнай канферэнцыі, прысвечанай 1000-годдзю ўтварэння Полацкай епархіі. Красамоўная назва слова — "Калі Божы храм і народ загавораць адною мовай..." Яно актуальнае і сёння. Як надзённа гучаць і ці не ўсе развагі Н. Гілевіча апошняга часу. Ды і як не быць ім актуальнымі, калі па-ранейшаму наступальныя антыбеларускія сілы, калі гэтак, як і год, і два назад, не сунімаюцца тыя, каму хочацца дзяржаўнага двухмоўя.

Як тут не згадаць выступленне Н. Гілевіча ў "Народнай газеце" за 29 чэрвеня 1993 года "Шаноўныя, паважаныя, суніміцеся!..": "У гісторыі Беларусі наступіў лёсавызначальны момант. Хочацца думаць, што гэта разумеюць усе. Ад кожнага, хто прэтэндуе сёння на дзейнасць у якасці палітыка, гэта патрабуе глыбей асэнсоўваць палітычныя і духоўныя працэсы ў жыцці грамадства, больш цвяроза глядзець на рэальны стан рэчаў, бачыць і падтрымліваць тыя здаровыя тэндэнцыі росту, за якімі будучыня.

Імкненне стрымаць працэс нацыянальнага адраджэння Беларусі — справа не толькі марная, але і шкодная. Усякая падобная дзейнасць спрыяе палітычнай дэстабілізацыі ў грамадстве, у той час як мы ўсе павінны быць зацікаўлены ў адваротным. Навошта наўмысна напальваць палітычную атмасферу ў грамадстве, калі столькі "гарачых" іншых праблем — эканамічных, сацыяльных, экалагічных, якія патрабуюць зноў жа агульнай усенароднай увагі?"

Загортваеш апошнюю старонку кнігі Н. Гілевіча і міжволі яшчэ раз звяртаешся да верша, што даў ёй назву:

**Талісман, ты мяне беражы,**
**Беражы, талісман, беражы,**
**І на самым крутым віражы**
**Затрымай на апошняй мяжы.**
**Я так веру ў цябе, талісман!**
**Я цалую цябе, талісман!..**

І сама кніга — свайго роду талісман для тых, хто не на словах, а на справе — за Беларусь. Талісман, што дапамагае ўратавацца ад нацыянальнага бяспамяцтва, абыякавасці. Талісман, які надае сілы і ўпэўненасці.

**П. Т.**

●

Прэм'ера кнігі Н. Гілевіча "Талісман" прайшла ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Падобныя мерапрыемствы ў ёй наладжваюцца рэгулярна, асабліва пастаянныя яны сталі апошнім часам.

На сустрэчу з народным паэтам сабралася шмат людзей. Адкрыла сустрэчу дырэктар бібліятэкі Г. Алейнік, якая адзначыла вялікі ўклад, які ўнёс і ўносіць Ніл Сымонавіч у справу нацыянальнага Адраджэння, гаварыла аб жыццесцвярджальных матывах яго публіцыстыкі, што асабліва важна сёння.

Уражаннямі ад кнігі падзяліўся мінскі школьнік Віця Мухін. Ён адзначыў, што яна напісана з пазіцый беларускасці, а не проста з пазіцый БНФ ці Грамады, таму аднолькава цікавая кожнаму, хто ўспрымае і падтрымлівае нацыянальную ідэю.

Пра кнігу "Талісман", як і ўвогуле пра літаратурную і грамадскую дзейнасць Н. Гілевіча, гаварылі Я. Лецка, Л. Лыч, А. Ліс, М. Ермаловіч, госць з Канады Ю. Рапэцкі, Я. Якубоўскі... У гэтым мужчынскім гурце ўпэўнена адчувалі сябе яшчэ дзве жанчыны — вядучая сустрэчы Л. Грыцько і І. Саковіч, якія таксама вельмі высокай думкі і пра "Талісман", і ўвогуле пра ўсю творчасць паэта.

Уважліва слухалі прысутныя і самога Ніла Сымонавіча, якога А. Ліс назваў "рабачаем". Тым самым яшчэ адно сакаўное беларускае слова вернута з небыцця і, думаецца, знойдзе сваё месца ў шырокім ужытку.

Пошта

# УЗОР СЛУЖЭННЯ

Дарагі Спадар Рыгор Барадулін, прыміце, калі ласка, ад імя беларусаў горада Чыкага, ЗША, самыя шчырыя віншаванні з нагоды Вашага слаўнага шасцідзесяцігоддзя і саракагоддзя Вашай творчай дзейнасці.

Ваша натхнёная паэзія — яскравы ўзор служэння роднаму народу і роднай бацькоўскай зямлі. Кожным сваім радком паказваючы веліч, прыгажосць і непаўторнасць нашай роднай беларускай мовы, Вы нібы вартуеце яе ад самых розных спроб яе прынізіць або зняважыць. Апяваючы любоў да Бацькаўшчыны, да роднага парога, да Маці, да каханай жанчыны, Вы вучыце новыя і новыя пакаленні, якія сталі Людзьмі звацца, несці гэтае высакароднае званне ў наступнасць.

Дзякуй Вам, дарагі Рыгор, і за Вашу нястомную перакладчыцкую дзейнасць, бо ў Вашым перастварэнні хораша загучалі пабеларуску многія шэдэўры сусветнай паэзіі. Плёну Вам на адказнай пасадзе прэзідэнта Беларускага ПЭН-цэнтра, які спрыяе, каб здабыткі беларускай культуры і духоўнасці ведалі ва ўсім свеце.

Зычым Вам добрага здароўя і новых творчых поспехаў.

**Др. Вітаўт РАМУК,**
**за Беларускі Каардынацыйны Камітэт у Чыкага**

*Ілінойс, ЗША*

***Тэма маіх нататкаў тая ж — балючая і набіўшая аскому, абрыдлая і надзённая, горкая і гаючая...***
***Заканамерным будзе пытанне — колькі можна? Думаю, што яшчэ можна, а галоўнае — ужо трэба. На жаль, трэба для вельмі, вельмі многіх.***
***Што ж рабіць, калі большасць толькі выпраўляецца ў шлях, хаця іншыя прайшлі яго добрую палову? Цярплівасць і настойлівасць, цярпімасць і мэтанакіраванасць — вось і ўсе сакрэты будучых поспехаў.***

# ДОМ НА РОСТАНЯХ

## БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАВА І НАЦЫЯНАЛЬНЫ ЭГАЦЭНТРЫЗМ

"Мой дом — мая крэпасць", — сказаў англічанін. Гэта стала сімвалам краіны і лёсам нацыі. "Мая хата з краю", — асцярожна спрабаваў адгарадзіцца і захаваць сябе беларус, ды зноў і зноў апынаўся то ўсходнім, то заходнім "ускрайкам", а то проста "прахадным дваром". Але нарэшце і да яго дайшло — навошта жыць "з краю", калі можна і "ў цэнтры", трэба толькі гэтага захацець. Праўда, вось бяда — тады з краёў апынуцца суседзі і, чаго добрага, пакрыўдзяцца (а гэтага беларус баіцца больш чым уласнай смерці).

А крыўдзіцца і сапраўды ёсць чаго, бо калі быць да канца лагічным, то беларус самы цэнтральны са славян, і мова ягоная беларуская — самая што ні ёсць цэнтральна-славянская, а ўжо польская, украінская ці руская проста яе заходні, паўднёвы і ўсходні дыялекты. Такое сцвярджэнне можна палічыць тутэйшым жартам, а можна і гістарычнай гіпотэзай, якая мае права на існаванне не менш, чым, напрыклад, тэорыя "старэйшага брата" ці "крэсаў усходніх". Тое, што лік прыхільнікаў апошніх двух поглядаў значна пераважае колькасць "беларусацэнтрыстаў", яшчэ не азначае іхнюю абсалютную ісціннасць, тым больш, што ісціна, як вядома, знаходзіцца пасярэдзіне ці, як у дадзеным выпадку, — у цэнтры.

Нічога дзіўнага і тым больш страшнага тут няма. Кожны народ і кожная дзяржава стаіць на сваім грунце, на сваіх нацыянальна-гістарычных традыцыях, і беларускі эгацэнтрызм у межах сваёй краіны такі ж натуральны, як чэшскі ў Чэхіі, габрэйскі ў Ізраілі, а расійскі ў Расіі. "Нам не трэба чужога, аддайце нам толькі нашае", — вось на што прэтэндуе сёння беларус на Беларусі. Гаворка, вядома, не пра перагляд межаў, чаго, можа, і хацелася б каторым мацнейшым суседзям, а пра вяртанне інтэлектуальна-духоўнай спадчыны, аднаўленне гістарычнай памяці, у тым ліку нашай культуры і мовы. Па савецкай традыцыі гэта можа падацца крамолай ці, як яшчэ казалі, распальваннем міжнацыянальнай "розни". Але такі аднабокі і спрошчаны погляд звычайна дэманструе праімперскую схільнасць і недасведчанасць у беларускай гісторыі.

Наша краіна сапраўды па волі лёсу жыла на перакрыжаванні розных геадухоўных і геапалітычных прастораў, а сёння яшчэ апынулася на разломе эпох. Тое, што праз стагоддзі гістарычных, культурных і рэлігійных катаклізмаў беларушчына здолела захавацца як самабытны феномен, беларускі народ як самакаштоўная этнічная супольнасць, а ідэя беларускай дзяржаўнасці як квінтэсенцыя нацыянальнай самасвядомасці, сведчыць аб жыццяздольнасці і моцы нашых каранёў.

Лепш пазней, чым ніколі, кажуць людзі, але, можа, і сапраўды вельмі позна? Мо і сапраўды мы спазніліся на разбор шапак, і застаўся толькі куртаты паўкаланіяльны суверэнітэт накшталт "заечага хваста"? Давайце паспрабуем зазірнуць у будучае і крыху пафантазіраваць наконт сваёй гісторыі.

Рэальныя ўмовы для стварэння беларускай дзяржавы склаліся ў канцы І сусветнай вайны, але шэраг прычын, у першую чаргу — уздым імперскага гіганта, краіны Саветаў — перашкодзілі Беларусі апынуцца ў шэрагу Чэхаславакіі, Венгрыі, Польшчы, Літвы і іншых вызваленых народаў. Праз імітацыю "рэспубліканскай самастойнасці" бальшавікі здолелі загнаць нацыянальны рух у камуністычны загон, а потым перадушыць найбольш паслядоўных прыхільнікаў адраджэння. Фактычна сёння мы мусім рабіць тое, што ў новых краінах Цэнтральнай і Сярэдняй Еўропы адбылося пасля І сусветнай вайны. Рэгенерацыя нацыянальнай ідэі, самасвядомасці і культуры, ажыўленне этнічных і рэлігійных меншасцей ідзе не так хутка, як у 20-ыя гады, але і не так марудна, як можна было б чакаць пасля дзесяцігоддзяў татальнага прыгнёту.



Малюнак Л. РАЗЛАДАВА

Трэба адзначыць, што дэсаветызацыя і рэбеларусізацыя, асабліва ў сацыяпсіхалагічнай сферы — працэс эвалюцыйны і патрабуе пэўнага часу. Спроба яго валявога паскарэння можа прынесці больш шкоды, чым карысці. Натуральным і больш аптымальным быў бы шлях стварэння спрыяльных умоў для беларушчыны з боку дзяржавы ў галіне культуры, палітыкі, адукацыі і г. д., што зрабіла б выбар людзей больш дэмакратычным і свядомым.

На жаль, аб неабходнасці прыярытэту беларускай традыцыі на Беларусі (асабліва мовы) прыходзіцца пераконваць не толькі простых жыхароў ці прыезджых, але і вышэйшых чыноў нашай суверэннай дзяржавы. Фактычна канчатковы выбар беларускага шляху яшчэ не зроблены, хаця з чатырох варыянтаў самы адыёзны — "паўднёва-заходні" (у складзе аднаўляемай Расійскай імперыі) пад уплывам "народарухаўцаў" і "жырыноўцаў" страчвае многіх сваіх прыхільнікаў. Гіпатэтычным варыянтам, відаць, застанецца і канфедэрацыя з Польшчай, нягледзячы на бліжэйшыя эканамічныя поспехі нашай заходняй суседкі і прыхільнасць да яе пэўнай часткі людзей каталіцкага веравызнання. Гісторыя не паўтараецца тройчы, а беларусы ўжо добра зведалі і "сваяцкі саюз" з палякамі, і "братэрскія абдымкі" расійцаў, і абодва варыянты наўрад ці задаволяць іх сённяшнія інтарэсы.

Ёсць яшчэ адна магчымасць развіцця падзей, якая пакуль выразна не акрэслілася, але мае рэальныя перавагі перад дзвюма папярэднімі. Гаворка ідзе пра "западно-русскую" ліберальную рэспубліку з мазаічным уключэннем этнаграфічна-беларускага элементу. Нешта накшталт "расійскай Ірландыі" з маленькай нішай для "вредных националистофф". Магчыма, беларуская глеба і больш прыдатная для ліберальных ідэй, чым расійская, але не настолькі, каб тутэйшыя лібералы на аскепках "западно-русизма" і постсавецкага бязладдзя здолелі зрабіць што-небудзь "рыначна-амерыканскае". І віной таму не столькі боязь "другога Ольстэра" ці нешматлікасць (калі не сказаць — экзатычнасць) сапраўдных, свядомых лібералаў, а прычыны больш глыбокія.

Па-першае: ідэалогія "западно-русизма" ніколі не была самастойнай і тым больш ліберальнай. Як правінцыйнае адгалінаванне расійскай імперскай традыцыі яна прынцыпова не здольная на саматразвіццё і аўтаномнае існаванне, таму, канешне, не можа апярэдзіць метраполію ні ў якой сферы і заўсёды цягнецца ў хвасце за сваімі маскоўскімі гаспадарамі. Па-другое, пераход ад таталітарызму да ліберальнага грамадства ў нашых умовах не можа пазбегнуць стадый аўтарытарнага рэжыму і сацыял-дэмакратычнага панавання. Па-трэцяе: тутэйшыя лібералы не звяртаюць увагі на такую праблему, як нацыяналізм і этнічныя традыцыі. Гэта самае слабае месца і ў расійскіх лібералаў, але ў той жа час адзін з галоўных момантаў развіцця постсавецкіх дзяржаў.

Такіх недахопаў пазбаўлены нацыянальна-дэмакратычны рух на Беларусі, які можа прапанаваць чацвёрты, найбольш натуральны і грунтоўны шлях дзяржаўнага ўсталявання з улікам інтарэсаў этнічных меншасцей і спрадвечных традыцый краіны. Беларуская нацыянальная ідэя, увасобленая ў дзяржаўнасці, і ёсць той гістарычны антыпод расійскага аўтарытарызму і савецкай таталітарнасці, які паказвае магчымасць дэмакратычнага развіцця на "славянскай глебе" пасля векавой імперскай залежнасці. Натуральна, што Беларусь не адзіная на гэтым шляху, яе лёс мусіць разглядацца ў кантэксце станаўлення ўсіх краін Сярэдняй Еўропы.

І ўсё ж шэраг адметнасцей надаюць ёй некаторую арыгінальнасць і абумоўліваюць складанасць далейшага развіцця.

Моўна-культурная праблема, канфесійны (каталіцка-праваслаўна-уніяцкія) пертурбацыі, паганскія рэмінісцэнцыі, вялікалітоўская спадчына, польскі ўплыў і габрэйскі фактар — як бы ўсё гэта не падабалася расійцам, але гэта менавіта нашая гісторыя, гэта частка нашай ментальнасці, стрыжань толькі беларускай душы, які нават без чыйгосьці дазволу будзе ўплываць на выбар шляху і будучае жыццё.

Можна, напэўна, і далей аспрэчваць наканаванасць беларускай дзяржаўнасці і карысць нацыянальнага эгацэнтрызму, можна, як і раней, рэзаць і кроіць цела Беларусі ўздоўж і ўпоперак, прадаваць, аддаваць і забіраць яе ў залежнасці ад імперскіх капрызаў і палітычнай моды, але тое, што ўсходнія і заходнія суседзі прыносілі сюды спрэчкі, крыўды, падзелы і чужыя парадкі, відавочна для любога адукаванага чалавека. І нават не толькі адукаванага, а проста інфармаванага і цвяроза думаючага. Тыя ж няроўныя, хісткія крокі да самастойнасці і ўласнага інтарэсу, што дэманструюцца нашым кіраўніцтвам, лішняе сведчанне таго, што не ўсе беларусы пакуль дастаткова цвяроза і свядома глядзяць на свет, што не прайшло пакуль "паталагічнае савецкае ап'яненне" ды "імперска[illegible]ка", што нацыянальны прагматызм толькі пачынае сваю аздараўленчую работу, а дух адраджэння — стваральную, святую справу беларускага будаўніцтва.

**Васіль АЎРАМЕНКА**

**Зважаючы на просьбы чытачоў, падаём кароткія звесткі пра нашага ўжо даўняга, сталага аўтара.**
**Васіль Аляксеевіч Аўраменка нарадзіўся ў 1958 г. у горадзе Мазыры. Закончыў Віцебскі медыцынскі інстытут, па спецыяльнасці — неўрапатолаг. Працуе ў адной з бальніц Магілёва.**
**Пачаў друкавацца з 1991 г., стаў лаўрэатам "ЛіМа" па намінацыі "публіцыстыка" за мінулы год.**

ЛіМ
ЧАСАПІС

## СТЫПЕНДЫІ ІМЯ ФЁДАРА ЯНКОЎСКАГА

**Каля 30 гадоў узначальваў кафедру мовазнаўства колішняга Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага, а цяпер Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта Фёдар Янкоўскі. Дзеля ўшанавання памяці знакамітага вучонага, заслужанага дзеяча навукі вучоная рада універсітэта вырашыла ўстанавіць тры стыпендыі, якія будуць насіць імя Ф. Янкоўскага. Іх атрымаюць студэнты, якія дасягнуць асаблівых поспехаў у вывучэнні беларускай філалогіі, культуры і гісторыі, праявяць сябе як спецыялісты па беларусістыцы.**

## З ПЕРАЖЫТАГА...

**З выпакутаванага, з абдуманага і пераасэнсаванага народжаны творы Алеся Адамовіча. І гэта не ў меншай ступені тычыцца напісаных аўтарам на пачатку яго мастакоўскага шляху. Безумоўна, тыя ж раманы “Вайна пад стрэхамі” і “Сыны ідуць у бой”, што склалі дылогію “Партызаны”, у нечым прайграюць у параўнанні з тымі, у якіх Алесь Міхайлавіч звяртаўся да тэмы вайны пазней, як, напрыклад, “Карнікі: Радасць нажа, ці Жыццяапісанні гіпербарэяў”. Тым не менш, з іх відочна, што А. Адамовіч пісаў пра вайну па-свойму. І чытаць гэтыя раманы сёння гэтаксама цікава, як і тады, калі яны ўпершыню былі надрукаваны.**

**Згаданая дылогія склала змест першага тома выбраных твораў А. Адамовіча, які выдавецтва “Мастацкая літаратура” выпускае ў чатырох тамах. Прадмову напісаў У. Бойка.**

**Як вядома, нядаўна споўніўся год, як Алесь Міхайлавіч пайшоў у вечнасць. Што ж, “Мастацкая літаратура” па-чалавечы ўзгадала яго. Дарэчы, спачатку меркавалася выпускаць трохтомнік, але вырашылі мастакоўскую спадчыну А. Адамовіча прадставіць найбольш поўна.**

## ШОСТАЕ ВЫДАННЕ

**“Русско-белорусского словаря” (днямі выйшаў першы том трохтомніка) пачало выпускаць выдавецтва “Беларуская энцыклапедыя” імя Петруся Броўкі. Як вядома, першае выданне яго з'явілася яшчэ ў 1953 годзе — тады аб'ёмны аднатомнік пабачыў свет пад рэдакцыяй Я. Коласа, К. Крапівы, П. Глебкі. Чарговае, ужо ў двух тамах (з-за паліграфічных цяжкасцей), выйшла ў 1982-м. Наступныя тры выдаваліся літаральна адзін за адным (1991, 1993, 1994) і, нягледзячы на вялікія тыражы, хутка разыходзіліся. Думаецца, што і цяперашняе, шостае выданне, доўга не залежыцца на паліцах кнігарань. Як бы ні актывізаваліся антыбеларускія сілы, як бы ні хацелася ім вярнуцца да часоў усеагульнага панавання “языка старшего брата”, — звароту назад няма. Жыве суверэнная Беларусь, жыве і беларуская мова.**

## БАГАТЫ НА МАТЭРЫЯЛЫ

**другі нумар часопіса “Роднае слова”. Прытым на такія, што прачытаюць з задавальненнем усе, хто цікавіцца беларускай літаратурай, нацыянальнай культурай. Галоўны рэдактар М. Шавыркін выступае з артыкулам “З усмешкай на вуснах”, у якім закранае ўзаемасувязь новых праграм і праблем выхавання. Агляд творчасці І. Навуменкі робіць Л. Піскунова (“Феномен мастацкай індывідуальнасці”). Новыя публікацыі Р. Барадуліна разглядаюць Л. Гарэлік і А. Гібкоўскі (“Жыццё зямное — рэпетыцыя...”) Слова пра Майстра гаворыць таксама яго старэйшы сябра В. Быкаў (“Майстра нацыянальнай культуры”). Пра лексікаграфічную дзейнасць С. Некрашэвіча разважае ў артыкуле “Ён мог бы стаць беларускім Далем” В. Шчэрбін. Пра літаратуру Беласточчыны — згадкі С. Чыгрына “Пад дзіўны гоман Белавежскай пушчы”. Друкуюцца працяг артыкула А. Бельскага “Над Белай Руссю — белы снег...” (зіма ў беларускай паэзіі), артыкул Л. Салавей “Пайшлі ў вечны карагод...” (карагодныя песні і гульні). Часопіс пачынае друкаваць цыкл матэрыялаў пра Коласавы мясціны пад рубрыкай “Дзе льецца Нёман срэбраводны...”**

# “ПАЭЗІЯ — НЯЎЛОЎНЫ САКРЭТ...”

## РЭХА АДНОЙ ПУБЛІКАЦЫІ

АДНОЙЧЫ Ў САЮЗЕ пісьменнікаў на пасяджэнні секцыі дзіцячай літаратуры падчас абмеркавання кнігі аднаго з аўтараў у яго адрас быў зроблены папрок наконт правамернасці ўжытага ім слова. На той папрок ніхто асаблівай увагі не звярнуў (сам аўтар адсутнічаў), ужо былі гатовы перайсці да наступнага пытання, як раптам падхапіўся чуйны да роднага слова, добры сэрцам Станіслаў Пятровіч Шушкевіч. “Пакрыўдзілі паэта!” — двойчы ўсхвалявана выгукнуў ён і пераканаўча даказаў, што аўтар заслугоўвае не папроку, а ўхвалення, бо тое слова арганічна ўпісалася ў радок і знойдзена вельмі ўдала.

Міжволі думаеш: як жа не хапае нам імгненнай гатоўнасці абараніць чалавека, права паэта на арыгінальнасць, самавыяўленне... Маю на ўвазе канкрэтны факт: больш як год таму ў “ЛіМе” быў надрукаваны артыкул, які, ведаю, многіх тады, мякка кажучы, здзівіў прэтэнцыёзнасцю зместу, неабгрунтаванасцю ацэнак і папрокаў (пра гэта крыху пазней). Здавалася, абавязкова з'явяцца ў “ЛіМе” водгукі, можа, нават разгорнецца шырокая гаворка пра паэзію, бо менавіта пра яе распавядалася ў артыкуле. Аднак, што нярэдка здараецца, — абурыліся, пагаварылі, а выступіць публічна так і не сабраліся...

Маўчанне ж прэсы аўтарка той публікацыі, відаць, успрыняла як знак згоды, недарэмна ж яна пісала: “Хай пройдзе абурэнне, хай міне раздражнёнасць, можа, тады будзе зразумелы мой крок: крытыка не дзеля крытыкі, а дзеля Мастацтва”. Дарэчы, патэтычных слоў пра літаратуру і мастацтва, пра нацыянальнае адраджэнне, місію інтэлігенцыі і г. д. у артыкуле было шмат. Не менш асуджальных закідаў у адрас тых літаратараў, якія ў час, “калі ідзе працэс адраджэння”, “не ўяўляюць адказнасці за стваранае імі..., прапануюць чытачу шэрыя, пустыя словамі і думкай, без аніякай прысутнасці навізны кнігі”.

Разумеючы, што сказанае належыць пацвердзіць, аўтарка спыніла свой выбар на паэтычным зборніку Людмілы Забалоцкай “Струны памяці” (1991). Менавіта гэта кніга, тлумачыла яна, выклікала ў яе жаданне “пагутарыць з пачынаючымі аўтарамі, аматарамі і г. д.” на тэму: **як не трэба пісаць вершы**”. Захацелася, апрача таго, ёй “паказаць спадарыні Людміле, а разам з тым і сабе, **чым адрозніваецца Мастацтва ад марнавання паперы**” (падкрэслена мною. — **М. Я.**). Папрокі, як бачым, больш чым сур'ёзныя. Але як важна было, каб крытык неаднаразова ўзважыла, выверыла кожнае абвінавачванне, кожнае сваё слова перш чым прылюдна вынесці прысуд кнізе. Асабліва гэта важна цяпер, калі ва ўмовах галоснасці і плюралізму можна сказаць і напісаць усё, што палічыш патрэбным. Прынцыповыя і новыя магчымасці свабоды слова вымагаюць ад крытыка вялікай адказнасці і самакантролю, каб не злоўжываць гэтай свабодай, не рабіць паспешлівых вывадаў. І, канечне, не на ўласны густ пры гэтым належыць спасылацца, як тое з пэўным какецтвам робіць аўтарка артыкула: маўляў, “такі вось у мяне густ...”, “паўтараю, тое можна спісаць на мой густ”.

Але ж гэта паэзія... “Любая размова пра яе, — пісаў тонкі знаўца і даследчык паэзіі Варлен Бечык, — павінна весціся з асаблівай беражлівасцю”. Каб правільна ацаніць кнігу паэта, “трэба шмат папрацаваць, шмат што дадумаць, уявіць, разгадаць таямніцы мастацкага мыслення аўтара”, — зазначыў Рыгор Семашкевіч. На жаль, у аўтаркі артыкула зусім іншы падыход, і яна проста не прыняла зборнік “Струны памяці” Людмілы Забалоцкай. Тут усё яе раздражняе, ставіцца пад сумненне, нават відавочнае; напрыклад, гаворыцца ў анатацыі, што лірычная гераіня Забалоцкай вяртаецца ў гэтай кнізе да мінулага свайго народа, да нашай гісторыі, каб глыбей асэнсаваць жыццё, яго вытокі і неўміручасць. “Зірнём бліжэй?” — кідае насмешлівую рэпліку крытык. Аналагічныя здзеклівыя пытанні і воклічы гучаць на працягу ўсяго артыкула: “Што гэта?”, “А як такія перлы?”, “Дзе сэнс?”, “Перагорнем пару-тройку старонак”, “Пагартаем наноў”, “Пойдзем па парадку?”.

Сапраўды, пойдзем па парадку. Каб размова наша была больш грунтоўнай, прыгадаем першы паэтычны зборнік Людмілы Забалоцкай, тады студэнткі-пяцікурсніцы, “Сакавік” (1974). Ужо тады ўсведамляла яна: “Мы бяспамяць спакойна гадуем...” і з хваляваннем пісала пра неабходнасць зберагчы і перадаць нашчадкам “самае святое — мову нашу і песні”.

Л. Забалоцкая адмовілася ад звыклых палітычных штампаў, выйшла за межы існаваўшых ідэалагічных канонаў, не прыняла агульнапафаснага гучнага славаслоўя — пранікнёна загаварыла пра Беларусь, пра сваю так званую малую радзіму.

“Не да рыторыкі пустой, да сціплай спадчыны прыходзім”, — абвясціла яна. Абвясціла, заўважым тады, калі, як пазней зазначыў у адным са сваіх вершаў Пімен Панчанка, “гаварылі занадта гучна, ды і пісалі занадта гучна”. Такое свавольства маладой паэтэсы не магло застацца незаўважаным. У рэцэнзіі “З цэлым народам гутарку весці”, што друкавалася ў газеце “Звязда”, яе папракнулі ў тым, што ёй не хапае пачуцця сучаснасці, што яна ігнаруе тэмы шырокага сацыяльнага гучання, што ў яе кнізе няма слоў “рабочы”, “завод”, “пяцігодка”, “калгас” і інш. Такіх слоў у зборніку “Сакавік” сапраўды няма, ключавымі ў ім былі іншыя: Беларусь, бацькоўская зямля, родная зямля, голас продкаў, спадчына, калыска, матчына слова і інш.

Яе спрабавалі скіраваць на традыцыйны шлях нацыянальна-безаблічнага паэта-трыбуна, але, як трапна заўважыў Кастусь Цвірка, “Л. Забалоцкая ігнаравала патрабаванні неразумнай крытыкі, імкнулася давяраць толькі ўласнаму сэрцу”. Гэта адданасць Беларусі, адраджэнскія настроі яднаюць усе чатыры кнігі Л. Забалоцкай — “Сакавік” (1974), “Радаводны васілёк” (1981), “Святло палыну” (1989), “Струны памяці” (1991).

Да якой бы струны памяці ні дакранулася паэтэса, кожная гучыць шчыра, ачышчальна. Даверлівасцю інтанацый, спавядальнасцю вызначаюцца яе вершы пра каханне, пра ўсё жывое, што патрабуе ўвагі і дабрыні, пра блізкіх сваякоў, сына, маці. Трывожыць паэтэсу сучаснасць з яе супярэчнасцямі, тое, што ўсё больш у адносінах паміж людзьмі раўнадушша, зла, хітрасці, маны, менш міласэрнасці — “дзікае зелле наш век накасіў”, — заключае яна.

“Л. Забалоцкая — паэтэса глыбокіх перажыванняў... Чалавечы боль і плач, смех і стогн знаходзяць у яе душы самы гарачы водгук... І гэтыя вечныя пачуцці хораша і нязмушана перадае паэтэса”. “У яе вершах гаворыць сама душа”, — пісаў Кастусь Цвірка ў рэцэнзіі на кнігу Л. Забалоцкай “Радаводны васілёк” (ч-с “Полымя”, 1982, N 5). Тое ж можна сказаць і пра “Струны памяці”, зборнік, у якім паглыбіўся філасофскі падтэкст паэзіі Л. Забалоцкай, выразна вызначыліся індывідуальныя асаблівасці яе як мастака-нетрадыцыяналіста.

Аднак нічога гэтага не заўважае крытык, усе яе намаганні скіраваны на тое, каб вышукваць недахопы, каб давесці, што “Струны памяці” — “слабая па ўсіх меркаваннях кніжка”.

Не лічу, што ўсё бездакорна ў гэтым зборніку Л. Забалоцкай, ды і наогул у яе паэзіі. Тамара Чабан у артыкуле “Радаводная повязь” (“ЛіМ”, 2.X.1981) слушна адзначыла ў творчасці Л. Забалоцкай праявы залішняй метафарычнай ускладнёнасці, уяўнай прыгажосці, меладраматызму, фрагментарнасці, часам перагружанасць мовы дыялектызмамі. Удумлівая даследчыца паэзіі Тамара Чабан, аднак, зазначыла самае істотнае: “Л. Забалоцкая стварыла свой “незвычайны і адметны, цікавы паэтычны свет”. Яна многа працуе над тэхнікай верша, шукае словы і вобразы свежыя, нясцёртыя, з адметным пахам і колерам... Спрабуе ўзнавіць страчанае значэнне слова па яго гучанні, пры дапамозе гукапісу, пераклічцы слоў імкнецца надаць ім дадатковы сэнс, стварыць музыку верша”. Дазволіла сабе даволі доўгае цытаванне таму, што ў прыведзеным выказванні ўдала падмечаны асаблівасці творчай індывідуальнасці, арыгінальнасць паэтэсы Л. Забалоцкай. Як жа гэта ўсё розніцца ад таго, што чытаем мы ў артыкуле, які ўжо прыгадваўся. Аўтарка яго ў крытычным запале абвінаваціла Л. Забалоцкую “ў элементарным няведанні мовы” (!). “Я не вялікі знаўца мовы, — абвяшчае яна, — але бачна, што паэтэсе бракуе элементарнага”. Вось так!

Ва ўсёй кнізе “Струны памяці” крытык па сутнасці не знайшла ніводнага таленавітага верша. “Тут сустракаюцца, — заўважае яна, — цікавыя, мілагучныя вершы, — але тут жа, нібы перакрэсліваючы сказанае, дадае: — Праўда, у іх ёсць радкі, якія ўспрымаюцца толькі з доляй іроніі да саміх сябе”. Каго або што мела на ўвазе крытык у гэтым “да саміх сябе”, шчыра кажучы, я не зразумела, але добра адчула, што яна ні на хвіліну не забываецца, што яе мэта паказаць чытачам, **як не трэба пісаць вершы.** У выніку крытык прыйшла да высновы, быццам з усяе кнігі добра, калі набярэцца таленавітых радкоў на 10 вершаў, — “гэта замала для зборніка, складзенага са 121 верша”, — упікае яна паэтэсу.

Што ў кнізе “Струны памяці” 121 верш — гэта праўда, а тое, што тут толькі на якіх 10 вершаў набярэцца таленавітых радкоў (хай прабачыць мне крытык), гэта — хлусня. Ёсць у “Струнах памяці”, як ужо адзначалася, недахопы, ёсць, на жаль, і так званыя праходныя вершы (хоць і ў іх нямала арыгінальнага). Сустракаюцца ў зборніку, як тое адзначае крытык (мусіць, гэта **адзіная** слушная заўвага), паўторы ў розных вершах адных і тых жа слоў і іх варыянтаў (фенікс, чаіца, гравюра, гравюрны). Але ж большасць вершаў глыбока кранаюць, прыносяць эстэтычную асалоду, здзіўляюць арыгінальнасцю паэтычных знаходак, спеўнасцю і святасцю гучання роднага слова. Іх хочацца чытаць, перачытваць... нават не ведаеш, на якім з іх спыніцца, бо ў кожным — плён шчырай душы, натхнення, любові...

**Дзеці замаўлялі: “Сыпані,**
**Буйны дождж, па буяках, па верасе.**
**З коптурам наб'ём кашы у верасні**
**Белымі грыбамі... Секані...”**
**...Грыбасей, даверлівасць пасей,**
**І вярні ў дзяцінства незваротнае,**
**Добрае, кароткае і роднае,**
**Што ідзе па зоркавай расе.**

Здаецца, прачытай два-тры вершы Л. Забалоцкай, нават тыя, што не назавеш лепшымі, і абавязкова адчуеш, што паэзія яе генетычна беларуская — па мелодыцы, слоўніку, сінтаксісу, асаблівасцях граматычнага ладу. Ні пра якое калькаванне тут размовы быць не можа, але крытык настойліва шукае прыкметы гэтай распаўсюджанай хваробы ў зборніку “Струны памяці” і, нарэшце, “вылоўлівае” яе сімптомы, прыводзіць словы: “Зверабой” (святаяннік), “поезд” (цягнік), “факел” (паходня), “губ” (вуснаў), “янтарна” (бурштынава), “па-юнаму” (па-юначы) і інш. Няцяжка, паглядзеўшы на гэты пералік слоў, здагадацца, што ў двукоссе крытык узяла ўжытыя Л. Забалоцкай словы, у

ЛіМ, 3 сакавіка 1995 года

дужкі — тыя, якія, лічыць яна, павінна была выкарыстаць паэтэса. Тут жа даецца наступная тырада-павучанне: "Яшчэ раз упэўніваюся, слоўнікі і толькі слоўнікі — галоўныя падручнікі для сучасных пісьменнікаў (усе словы вылучаны крытыкам. — **М. Я.**). Слоўнікі, безумоўна, патрэбны, і няблага, што аўтарка артыкула прапагандуе іх. Парадокс, аднак, у тым, што, урачыста абвясціўшы слоўнікі галоўнымі падручнікамі, сама яна ў іх наўрад ці зазірнула. Калі б зрабіла гэта, дык пераканалася б, што літаральна ўсе ўжытыя Л. Забалоцкай словы законна прапісаны ў беларускіх слоўніках: наконт правамернасці іх выкарыстання сумненняў быць не можа. Калі б уважлівей прыглядзелася аўтарка таго артыкула, дык убачыла б і тое, што ў пэўных выпадках паэтэса ўжывае то адзін, то другі варыянт. Л. Забалоцкая адчувае сэнсавыя, эмацыянальныя адценні слоў і з іх выбірае тое, якое найбольш адпавядае зместу, настрою, характару вобразнасці верша. Паспрабуйце замяніць, напрыклад, слова "факел" словам "паходня" ў гэтым радку: "Факел барвяны даспелых парэчак...", ці ў гэтым тэксце: "... Белы бэз і юная трава", замест прыметніка "юная" ўжыць "юначы". Дарэчы, "юная" і "юначая" — розныя словы, гэтаксама, як "губы" і "вусны" і інш.

І яшчэ раз пра слоўнікі. У вершы "Вывучэнне мовы" Максім Танк з усмешкай зазначае, што "слоўнікі старэюць раней, як выйдуць з друку" і, шчыра выкарыстоўваючы ўласцівую паэзіі вобразнасць, радзіць вывучаць мову найперш

**... Па спрадвечных нашых пісьмёнах**
**Крыніц, дарог, плугоў,**
**Па гоману дрэў,**
**У вясновым і зімнім уборы,**
**Па матчыных калыханках**
**На змярканні і ў час зарападу...**

Па ўсім відаць, што родную мову Л. Забалоцкая вучыла не па слоўніках — з ёй яна паяднана змалку, змалку была далучана да глыбінных слаёў народнай лексікі. Паэтэса жыве ў стыхіі роднага слова, тонка адчувае яго адценні, вобразныя магчымасці, сілу, поліфанічнасць.

Вершы Людмілы Забалоцкай заўсёды загадка. Неабходна шмат дадумаць, уявіць, прыкласці духоўныя намаганні, каб адшукаць і спасцігнуць прыхаваны сэнс. Для аўтаркі таго артыкула ўсё значна прасцей, ва ўсіх выпадках яна абмяжоўваецца зрокава-канкрэтным успрыманнем вершаў, не ўлічваючы таго, што "паэзія — няўлоўны сакрэт" (П. Панчанка).

**Закліманне трагічна-сутойнае**
**Прамаўляю суцішна, ледзь-ледзь,**
**І кагорты палеглыя воінаў**
**Устаюць, каб на зоры глядзець.**
**І чаканыя крокі разносяцца**
**Над планетай, нібы грамабой.**
**Іх ваенныя зімы і восені**
**Над людзьмі, нада мной, над табой.**

Абвінаваціць аўтара такіх вершаў у элементарным няведанні мовы, у "неахайным стаўленні да слова і думкі" можа толькі той, хто не бачыць і не чуе. Непрыемнае ўражанне робіць іранічна-паблажлівы тон крытыка, яе імкненне павучаць паэтэсу, кіраваць яе пяром. Замест таго, каб адчуць адметнасць унутранага аўтарскага "я", пастарацца ўбачыць свет у тых формах і фарбах, што і паэтэса, крытык штучна вырывае з вершаў асобныя радкі і здзекліва-прымітыўна каменціруе іх.

Міжволі думаеш пра жывучасць традыцый аўтарытарнай крытыкі, якая хоць і мяняе свае формы і выступае пад новымі лозунгамі, але, як і ранейшыя, прысвойвае сабе манапольнае права на ісціну. Ігнаруючы адметнасць творчай індывідуальнасці мастакоў, яна стараецца падвесці іх творчасць пад пэўныя схемы, ускладае на сябе ролю таго гегемона, пра які з пафасам гаворыцца ў артыкуле майго апанента. У гэтай ролі яна адчувае сябе ўпэўнена, баявіта: усё ёй бачна, зразумела, дакладна вядома, што і як павінна сказаць Л. Забалоцкая, якое слова ўжыць. Сячэ направа і налева, зусім забыўшыся на тое, што "ёсць у паэта свой аблог цалінны", і недапушчальна жывасілам урывацца туды, правіць там лад на свой капыл.

Літаратурная крытыка назапасіла вялікі вопыт уніфікацыі талентаў, звычка гэтая ўелася надта глыбока. І цяперашняя крытыка, хоць абвяшчае сябе дэмакратычнай, як бы па інерцыі па-ранейшаму нярэдка не можа пагадзіцца з тым, што нехта глядзіць на свет інакш, і думае, і піша не так, як "палажана"...

**Маргарыта ЯФІМАВА**

***Іمануіл Кант (1724—1804) у нас вядомы як аб'ект крытыкі філосафаў-марксістаў. Гэты філосаф распрацаваў сваю сістэму этыкі, яго вылучаюць самастойнасць і неардынарнасць думкі. Кант мае вялікі наробак і на мяжы філасофіі ды літаратуры: менавіта ён з'яўляецца тэарэтыкам асветніцкай плыні ў нямецкай літаратуры XVIII ст.***

***Прапануючы ўвазе чытачоў пераклад яго трактоўкі крэда асветнікаў, я спадзяюся, што тэкст будзе ацэнены не толькі як гісторыка-філасофскі, але і сугучны нашым сённяшнім дачыненням.***

**ПЕРАКЛАДЧЫК**

# ШТО ТАКОЕ АСВЕТА?

Асвета гэта сыход чалавека з яго самачыннай недзеяздольнасці. Недзеяздольнасць ёсць няздольнасць паслугоўвацца сваім розумам без накіроўвання другім. Самачыннай гэта недзеяздольнасць з'яўляецца тады, калі яе прычына ляжыць ў недахопе не розуму, а рашучасці і мужнасці паслугоўвацца ім без накіроўвання другім. Sapere aude!* Май мужнасць паслугоўвацца сваім уласным розумам — вось дэвіз асветніцтва.

Лянота і баязлівасць ёсць прычынамі, чаму вельмі вялікая частка людзей пасля таго, як прырода ўжо даўно абвясціла ім свой вырак быць свабоднымі ад чужога кіраўніцтва, ўсёткі ахвотна на ўсё жыццё застаюцца недзеяздольнымі, і чаму другім так лёгка авалодаць палажэннем апекуноў. Быць недзеяздольным зручна. Калі ў мяне ёсць кніжка, якая прапануе мне розум узамен майго душпастыр, які пасвіць маё сумленне, доктар, які для мяне прызначае маю дыэту і г. д., то мне ж тады не трэба самому выпінацца. Мне няма патрэбы думаць, бо я ж магу толькі плаціць; другія выканаюць за мяне гэту непрыемную работу. Што найбольшая частка людзей (сярод іх увесь прыгожы пол) лічыць крок да дзеяздольнасці, апроч таго што ён цяжкі, яшчэ і вельмі небяспечным, — пра гэта ўжо клапоцяцца тыя апекуны, якія гэтак шчыра ўзялі на сябе функцыю нагляду.

Пасля таго як яны сваё быдла спачатку зрабілі дурным і старанліва пазбягалі таго, каб гэтыя ціхмяныя стварэнні маглі асмеліцца зрабіць хоць крок з тых яслей, у якія іх запёрлі, — яны паказваюць ім небяспеку, якая пагражае, калі тыя паспрабуюць ісці самастойна. І вось, хоць гэта небяспека такой вялікай якраз не з'яўляецца, бо ўпаўшы некалькі разоў, яны, мабыць, навучыліся б хадзіць, папярэджанне ўсё ж выклікае няпэўнасць і найчасцей адпалохвае ад далейшых спробаў.

Такім чынам, для кожнага чалавека паасобку цяжка выбрацца са сваёй недзеяздольнасці, якая стала амаль часткай яго натуры. Ён нават упадабаў яе і сапраўды не ў стане карыстацца сваім уласным розумам, таму што яму ніколі не дазвалялі зрабіць гэта. Прадпісанні і правілы, гэтыя механічныя інструменты разумовага ўжытку ці хутчэй злоўжывання прыродных здольнасцей, з'яўляюцца кайданамі хранічнае недзеяздольнасці. Калі б хтонебудзь пазбавіўся іх, то ён зрабіў бы нават цераз малую яміну скачок усяго толькі няўпэўнены, бо ён нязвыклы да такой вольнай манеры духу. Таму знаходзяцца толькі нямногія, каму ўдалося дзякуючы працы над сваім духам выблытацца з недзеяздольнасці і дасягнуць упэўненае хады.

Але тое, што супольнасць асвеціць сама сябе, магчыма; гэта амаль непазбежна, калі ёй даць адно толькі свабоду. Таму што знойдуцца, нават пры дзейсных апекунах над вялікай масай людзей, некалькі самастойна мыслячых асоб, якія, спярша самі скінуўшы ярмо недзеяздольнасці, будуць распаўсюджваць вакол сябе дух разумнай ацэнкі ўласнай вартасці і прызвання чалавека думаць самастойна.

Супольнасць можа дасягнуць асветы толькі памалу. Шляхам рэвалюцыі будзе дасягнуты адыход асабістай дэспатыі і карыслівага альбо ўладалюбнага прыгнёту, але ніякім чынам не адбудуцца сапраўдныя пераўтварэнні ў манеры мыслення; больш таго, новыя інтрыгі, як у свой час старыя, будуць служыць цуглямі бяздумнай вялікай людской масы.

А вось для асветы непатрэбна нічога, акрамя свабоды, найбясшкоднай з усяго, што можна назваць свабодай, і гэта свабода ёсць свабодай ва ўсіх справах адкрыта прымяняць свой уласны розум. (...) Калі ж тут спытаюць: ці жывём мы ў асвечаны век? — то адказ будзе: не, але, відаць, у век асветы.

** Май мужнасць быць мудрым! Афарызм належыць Гарацыю.*

**Пераклаў з нямецкай мовы**
**Яўген БЯЛАСІН**

# ЯШЧЭ АДНО СЛОВА ПРА УЗДЗЕНШЧЫНУ

На Уздзеншчыне ці не ўсе ведаюць краязнаўца Уладзіміра Кісялёва. Яго кніга "На Нёманскіх вытоках", што пабачыла свет у 1985 годзе ў выдавецтве "Полымя", стала свайго роду падручнікам па гісторыі, літаратуры, геаграфіі і прыродазнаўстве роднага раёна.

Нядаўна тое ж "Полымя" выпусціла яшчэ адну яго кнігу "Пуцявінамі Наднямоння" — таксама пра Уздзеншчыну, яе цудоўных людзей, якія жылі тут у мінулым і жывуць тут цяпер. Аўтар вядзе свой аповяд з сівой даўніны, уваскрашае назвы многіх паселішчаў, курганоў, гарадзішчаў, дарог, лугоў, палеткаў, лясоў, рэк, рачулак. Для большай паўнаты таго, пра што расказвае, цягне нітку дакументальнай асновы далёка за межы Уздзеншчыны.

Чытаеш кнігу і адчуваеш, як У. Кісялёў любіць сваю Уздзеншчыну, дзе, як кажуць, у любую вёску зойдзеш — пісьменніка, вучонага знойдзеш. Напрыклад, Магільнае. Тут, у сям'і Яўгені Сымонаўны і Міхаіла Міхайлавіча Лычоў вырасла трое сыноў. Усе сталі вучонымі. Генадзь — акадэмік, заслужаны дзеяч навукі, доктар эканамічных навук, прафесар, узначальвае Інстытут эканомікі Акадэміі навук Беларусі; Леанід — доктар гістарычных навук, прафесар; Анатоль — кандыдат тэхнічных навук. А іх родная сястра Ліда — самабытная казачніца, яе творчасць знойдзеш у многіх фальклорных зборніках, адрасаваных вучням, настаўнікам, студэнтам.

Калісьці ў вёсцы Магільнае стаяла невялічкая хата Яўхіма Шкляра. Яго сыны Міхаіл і Абрам таксама дактары навук, першы — гістарычных, другі — геаграфічных.

А вёска Нізок! Невялікая вёска, а дала нашай літаратуры Кандрата Крапіву, Паўлюка Труса, Лідзію Арабей, мастака Уладзіміра Ткачова, народнага артыста рэспублікі Анатоля Труса... Сказаць пра ўсіх знакамітых людзей гэтай вёскі — месца не хопіць. Сярод нізаўчан ёсць акадэмік, доктар філалагічных навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі, восем кандыдатаў навук, некалькі дацэнтаў...

Аўтар кнігі не толькі занатоўвае падзеі, факты. Ставіць і праблемныя пытанні. Напрыклад, чаму да гэтага часу няма ў вёсцы Нізок музея Кандрата Крапівы і Паўлюка Труса. Хаця б адзін на двух класікаў! І сапраўды, чаму? Можа, і тут праяўляецца наша бяспамяцтва? Альбо пра вытокі Нёмана і Лошы. У. Кісялёў уносіць прапанову: пракласці сюды турысцкі маршрут, адзначыць гэта месца памятным знакам.

Слушнай уяўляецца і ягоная прапанова адну з вуліц нашай сталіцы назваць Нёманскай, нагадваючы: "Яшчэ з 1859 года на Васільеўскім востраве ў С.-Пецярбургу "прапісаўся" Нёманскі завулак, які хавае гэту назву і сёння... У Маскве ў раёне Валакаламскай шашы ёсць Нёманскі праезд... У Кіеве таксама ёсць Нёманская вуліца..."

Да ўсяго, не трэба забываць, што адзіная вялікая рака, што нарадзілася на Беларусі, — на Міншчыне!

У асобны раздзел У. Кісялёў выдзяляе перыяд Вялікай Айчыннай вайны: расказвае пра мужнасць сваіх землякоў на фронце, у падполлі, партызанах, гаворыць пра нашых жанчын і дзяцей, якія ў цяжкія дні фашысцкага ліхалецця не сталі на калені перад ворагам.

Ёсць у кнізе і дакументальныя нарысы. Грунтоўная гаворка вядзецца пра выдатнага беларускага вучонага Якуба Наркевіча-Ёдку, пра выдатнага гісторыка, прадстаўніка рэлігійна-культавага рэнесансу канца XIX — пачатку XX стагоддзяў Уладзіміра Завітневіча. Ёсць згадкі пра старадаўні ўздзенскі род Кісялёў, які вядзе да княжацкай галіны Рурыкавічаў, князёў уладзімірскіх на Валыні, пра братоў Ткачовых з Нізка.

У кнізе дзесяткі рэдкіх ілюстрацый. Многія здымкі зрабіў сам аўтар. Да месца тут і рэпрадукцыі: карта 1612 года, план маёнтка "Святы Двор" 1882 года, малюнкі Н. Орды "Сядзібны дом у Над-Нёмане" — "Пясочна, палац Ёдкаў" 1864 года, малюнкі В. Сташчанюка.

Удала аформіў кнігу мастак Л. Мялоў, які выкарыстаў застаўкі па матывах малюнкаў А. Тычыны. На вокладку вынесены фрагмент адной карціны Р. Заслонава з яго серыі "На Радзіме Наркевіча-Ёдкі".

**А. АЛІН**

# А Ў "СПАДЧЫНЕ" — ПАПАЎНЕННЕ

Яшчэ адна кніжка з'явілася ў серыі "Спадчына", што выпускае выдавецтва "Мастацкая літаратура", — зборнік выбраных твораў Вінцэся Каратынскага (укладанне, прадмова і каментарыі У. Мархеля). Гэта ўжо другое, дапоўненае выданне спадчыны "барадатага ліцвіна", як называлі В. Каратынскага між сабой варшаўскія газетчыкі. Першае з'явілася яшчэ ў 1981 годзе, калі серыя "Спадчына" не выходзіла (як вядома, пачатак ёй быў пакладзены ў 1989 годзе).

Адкрываецца кніга вершам "Уставайма, братцы!", які быў напісаны В. Каратынскім па-беларуску ў сувязі з прыездам у Вільню імператара Аляксандра II. Твор прагучаў як выклік манарху, што непрызнаная ўладамі беларуская мова жыве і развіваецца. Верш быў надрукаваны лацінкай, а таксама кірыліцай з падзагалоўкам "Песня з паклонам ад літоўска-русінскай грамады" ў верасні 1858 года як дадатак да прывітальнага адраса цару, з якім выступілі А. Кіркор, А. Адынец, І. Ходзька, Я. Тышкевіч і М. Маліноўскі.

Змешчаны таксама беларускамоўныя вершы В. Каратынскага "Далібог-то, Арцім..." і "Туга па чужой старане". Далей ідуць польскамоўныя паэтычныя творы В. Каратынскага, над перакладамі якіх рупіліся Г. Тумаш, У. Мархель, Р. Барадулін, П. Бітэль, Р. Баравікова, Г. Дубянецкая.

Асобны раздзел складаюць артыкулы, нарысы. Можна пазнаёміцца з такімі творамі, пераўвасобленымі па-беларуску тым жа У. Мархелем, З. Саўкам, М. Хаўстовічам, А. Жлуткам, В. Вярэнічам, як "Навагрудчына і Навагрудак", "Некалькі падрабязнасцяў пра сям'ю, месца нараджэння і маладосць Адама Міцкевіча", "Віцебск", "Рамуальд Зянькевіч", "Дадатак да біяграфіі Адама Міцкевіча", "Ігнат Дамейка ў Варшаве", і іншымі.

Прадстаўлены творы, якія прыпісваюцца В. Каратынскаму, і некалькі яго лістоў (іх пераклалі Г. Кісялёў, У. Мархель, Я. Янушкевіч).

Як не пагадзіцца з У. Мархелем: "Літаратурная спадчына Вінцэся Каратынскага багатая сваёй чалавечнасцю, духоўнай пульсацыяй думкі, памкненнем да сацыяльнай раўнавагі ў людскіх стасунках. І ў нас, яго нашчадкаў-землякоў, людзей канца XX стагоддзя, няма ніякага маральнага права адмаўляцца ад гэтага багацця".

Тэатр

# РЫД ТАЛІПАЎ:
# "...ХАЧУ БЫЦЬ ЗАЛЕЖНЫМ"

***Двухгадовы кантракт з аўстрыйскім урадам прадугледжвае для рэжысёра Рыда ТАЛІПАВА два вялікія тэатральныя праекты, перадусім — пастаноўку "Караля Ліра" У. Шэкспіра сумесна са шведскімі акцёрамі і сцэнографам. Падрыхтоўка распачнецца ў сакавіку, а пакуль — адпачынак на творчай радзіме — Беларусі. Такім вымушаным адпачынкам, якому рэжысёр дае назоў "беспрацоўе", робіцца кожнае ягонае вяртанне дадому.***

**— Рыд, не сакрэт, што людзі творчых прафесій не прагнуць працяглых адпачынкаў. Ведаючы цябе, я разумею тваю прыхаваную крыўду на наш урад ды абставіны; я падзяляю тваё недаўменне. Але ж ты ўсё-такі вяртаешся...**

— Вяртаюся. Штораз — са спадзяваннем. Я маю работу ў Аўстрыі, у мяне яшчэ колькі запрашэнняў, і ў кожным я — прадстаўнік Рэспублікі Беларусь. Мяне запрасілі ў Інсбрукскі універсітэт прачытаць колькі лекцый па беларускай культуры. Натуральна, я пачаў з таго, што прывёз з сабою валізу кніг нашых пісьменнікаў, а таксама перакладаў сусветнай класікі на беларускую мову. У Інсбрукскім універсітэце ёсць рускае аддзяленне, так што дарунак мой прынялі з удзячнасцю, але... з чаканнем, так бы мовіць, перакладу... Паразумецца з беларускага боку дапамагаў перакладчык Сяргей Брыжэвіч, з ім самым я і ставіў свой апошні спектакль у Інсбрукскім муніцыпальным тэатры.

**— Між тым шмат задум, выпеставаных для нашага тэатра, так ніколі і не ўвасобяцца?**

— Я па-ранейшаму не магу знайсці грошы на пастаноўкі. Пакуль мой тэатр-студыя не зробіцца дзяржаўным тэатрам, ніводная мая задума, напэўна, сцэны не зазнае. За мяжою, прынамсі, у Аўстрыі, няма недатацыйных тэатраў. Груба кажучы, да кожнага тэатра так ці інакш, у такой або якой іншай форме спрычыняецца міністэрства культуры. Або дэпартамент, адказны за яе фінансаванне і падтрымку.

**— Мабыць, крыўдна ды бескарысна раскідаць свае лепшыя творчыя гады на пошукі грошай, паразумення з уладамі, спонсарамі...**

—За мяжою, там, дзе я ставіў, ніводзін тэатр спонсара не шукае. Гэтыя пошукі — наш, тутэйшы, дамарослы міф. Гэта спонсар шукае тэатр, — у маім выпадку, праз міністэрства. Дзяржаўныя законы да такой ступені разумныя і гнуткія, што мне асабіста застаецца займацца толькі сваёй непасрэднай рэжысёрскай справай. Тым, чым я ўмею займацца лепш за ўсё. Іншая справа, што грошы не даюцца пад прозвішча (і толькі прозвішча) аўтара ці рэжысёра. Грошы даюцца пад пэўную, пралічаную пастаноўку, а таксама ўвесь комплекс звязаных, злучаных з ёю мерапрыемстваў. Менавіта гэта і мае назоў "праект". Уся мая работа, паўтараю, вельмі і вельмі канкрэтная. Не схаваю, што тэатр пэўна залежны ад міністэрства культуры. Як фінансава, так і рэпертуарна.



**— А як жа нашае заўсёднае торканне пальцам у свабоду творчасці?**

— Ну чаму б дзяржаве, якая выдаткуе немалыя грошы, не вымагаць, напрыклад, класічных або нацыянальных імёнаў на афішы тэатра? Калі беларускія тэатры яшчэ змагаліся за волю вольную, я міжволі ўжо тады хацеў быць залежным — дай веры, што гэта несур'ёзна: адной рукой браць ад дзяржавы, а другой паціху складаць фігу ў адказ на ўсе яе просьбы. Я заўсёды хацеў быць залежным! Ад мамы, ад бацькі, якія спачатку кормяць ды апранаюць, а потым дапамагаюць у скрутную часіну. Заходнія тэатры — заўжды пры кімсьці. А што значыць незалежнасць нашых тэатраў? Мала, мала значыць. Кожны тэатр мусіць адказваць перад тымі, хто дае ім магчымасць існаваць.

**— Рыд, а як, па тваіх назіраннях, выданні, якія пішуць толькі і толькі пра культуру, або — пераважна пра культуру і мастацтва, за кошт чаго існуюць?**

— Выданняў, падобных да "ЛіМа", я ў Аўстрыі не бачыў. Усё-такі згуртаваць такіх спецыялістаў, як вы, не так проста, як не проста сумясціць усе прыгожыя мастацтвы на шаснаццаці газетных палосах. Выданні, падобныя да вашага — гэта, напэўна, мара заходняга мастацкага свету. Але самая паважаная газета не грэбуе рэкламаю. Рэкламы я не бачыў хіба ў "Кірхе цайтунг", царкоўнай газеце, — царква самая заможная арганізацыя. Праўда, што да сувязяў тэатра і газет, дык зацікаўленасць тэатра адчуваецца хоць бы па тым,з якім імпэтам і на якім высокім узроўні ён ладзіць прэс-канферэнцыі з акцёрамі; рэжысёрамі, драматургамі, па тым, якія сустрэчы тэатр прапануе гораду і абавязкова ў першых шэрагах ладкуе прадстаўнікоў прэсы. Мне часам здаецца, што ў нашых тэатрах проста месца бракуе, каб прэс-канферэнцыю зладзіць. Дый рэцэнзія на спектакль там з'яўляецца... у чатыры гадзіны раніцы пасля вечаровай прэм'еры. Я цікавіўся — самі журналісты зацікаўленыя ў такой хуткай рабоце, напэўна іх нядрэнна заахвочваюць.

**— Рыд, а рэцэнзіі пішуць мастацтвазнаўцы або ўсё-такі супрацоўнікі рэдакцый?**

— Часам рэдакцыя наймае крытыка весці калонку. Часам — не аднаго крытыка. Рэцэнзіі з'яўляюцца вельмі розныя па ўзроўні. Але вяртаюцца да тэатральных падзей толькі спецыялізаваныя выданні. Скажам, праз месяц-другі пасля прэм'еры.

**— А тваімі запрашэннямі займаецца якісьці зацікаўлены чалавек — агент, менеджэр?**

— Тэатральнаму рэжысёру, які не спанатрыўся ставіць, не дапаможа ніякі менеджэр. Нават там. У нас ёсць званне — там ёсць імя, якое запрашаюць, на якое арыентуюцца, якое падтрымліваюць. Проста імя. Імя, якое заўжды ставяць паперадзе пасады, звання, якое нават на паштовым адрасе фігуруе першым. Дарэчы, істотнае ўдакладненне: тое, што я называю аўстрыйскім міністэрствам культуры, — гэта ўмоўна. На самай справе гэта — урад. Краіны або, як у Германіі, зямлі. Калі ён падтрымаў твой праект, тады не малую ролю пачынае адыгрываць тваё імя — імя таго, хто гэты праект увасабляе. Смешны выпадак апошняга разу: мне трэба было падлогу на сцэне закрыць плексігласам. Усё зрабілі. Выпадкова я даведаўся, колькі гэта каштуе: трыццаць шэсць тысяч долараў. Я толькі і сказаў: навошта? Вы што, спадары, не маглі мне назваць цану? Я б задаволіўся таннейшым матэрыялам. А кіраўніцтва тэатра ў адказ: ну вы ж, маўляў, сказалі... Вы ж, маўляў, хацелі...

**— У сакавіку ты ізноў з'едзеш і, у лепшым выпадку, назад прывязеш запіс генеральнай рэпетыцыі ўласнага спектакля. Ізноў твае прыхільнікі, як і мастацтва Беларусі, застануцца са сваімі згадкамі пра стары таліпаўскі падвал і спектаклі "Стрыптыз", "Картатэка", "Яма", "Кантрабас"... А тэатральная навука — з адбіткамі тамтэйшых артыкулаў-рэцэнзій...**

—Ведаеш, я яшчэ пацярплю. Патрываю. Я ўсё яшчэ хачу быць залежным тут...

**Гутарыла**
**Жана ЛАШКЕВІЧ.**

*На здымку: Рыд Таліпаў і перакладчыца, студэнтка рускага аддзялення Інсбрукскага універсітэта Юдзіт Бакачы.*
*Фота з архіва Рыда ТАЛІПАВА*

# ПЁТР АЛЕЙНІКАЎ. БЕЛАРУС

На Шклоўшчыне нарадзіўся і гадаваўся вядомы артыст кіно Пётр Алейнікаў. Радзіма на гэта забылася, хоць у вёсцы Крывель нават захавалася ягоная хата....

... Неяк выпала слухаць былога міністра культуры. Падаў яму запіску з просьбаю выслухаць і паспрыяць хоць з мемарыяльнаю дошкаю. Той здзівіўся: "Няўжо Алейнікаў — беларус?!" Давялося падымацца і даваць тлумачэнні, пасля якіх кіраўнік культуры пабяцаў... "разабрацца..."

Не толькі былы міністр культуры, але, магчыма, і шмат хто з аматараў, а то і знаўцаў кіно не ўсведамляе, што "беларус можа быць такім артыстам". Таму варта расказаць пра яго, карыстаючыся ўласнымі набыткамі і нарысам Аляксея Слесарэнкі "Пятро Алейнікаў". Мне, дарэчы, больш нічога не давялося чытаць пра земляка-артыста на радзіме.

Пётр Мартынавіч Алейнікаў нарадзіўся на Шклоўшчыне ў сям'і беларускага селяніна. Каб лёс наканаваў яму доўгі век, то сёлета (12 ліпеня) артысту споўнілася б 80 гадоў. Але пражыў ён на гэтым свеце ўсяго 51. Рана застаўся без бацькі. Мартын Алейнікаў працаваў лесасплаўшчыкам на Дняпры. Аднойчы зваліўся з плыта ў сцюдзёную восеньскую ваду, доўга хварэў. Пеця і старэйшыя двое дзяцей асталіся на руках гаротнай маці. Яна вымушана была выправіць дзяцей жабраваць, пашыўшы ім з апошніх саматканых посцілак кашулі і торбы.

Хлопец часта начаваў у зале чыгуначнай станцыі Шклоў, на лаўцы ў гарадскім парку. Быў ён ціхі і сарамлівы, ніколі нават не лаяўся. Таму гараджане шкадавалі яго, частавалі чым маглі. Яны ж уладкавалі Пецю на дзяржаўны кошт у Шклоўскую школу-інтэрнат. Ён аказаўся старанным і здольным вучнем. Праўда, злоснікі напісалі ў школу, што ў яго ў Крывялі ёсць маці, а ў школу-інтэрнат залічвалі толькі круглых сірот, — зноў хлопец аказаўся на вуліцы. З дапамогаю аднаго старога настаўніка Пецю сабралі грошы, уладкавалі ў прытулак з харчаваннем. Зноў ён бегаў у школу. Вучыўся старанна.

Выпала неўрадлівае лета, таму і ад маці не было чаго чакаць. Пеця стаў зарабляць сам — сек дровы, ганяў коні ў малатарні, быў наняўся нянькай...

Летнім часам, на вакацыях, ён бавіўся ў гарадскім парку. На тое была прычына — тут "круцілі кіно". Стараўся патрапіць у кіназалу любым шляхам, найчасцей круціў невялікую дынамамашыну (так для паказу кінафільма даставалі электраэнергію). Нарэшце здружыўся з кінамеханікам, які іншы раз давяраў яму круціць ручку праекцыйнага апарата.

Пасля таго лета Пеця кінуў вучыцца. Яго захапіла кіно,ён сабраўся ехаць у Маскву. На вакзале падзяліўся са знаёмым настаўнікам сваімі сакрэтамі, настаўнік адгаварыў яго ад Масквы, бо ў Пеці няма поўнай агульнай адукацыі.

Хлопец засумаваў, узяўся бадзяжыць, трапіў у Аршанскі дзіцячы прыёмнік-размеркавальнік, адтуль — у Барсукоўскую дзіцячую калонію на перавыхаванне. Перавыхоўваўся такім чынам: стварыў гурток драматычнага мастацтва і зрабіўся ягоным кіраўніком. Неўзабаве з калоніі яго выправілі ў Першую Усебеларускую камуну імя Дзесяцігоддзя Кастрычніцкай рэвалюцыі (там былі лепшыя ўмовы для вучобы). У камуне Пеця таксама кіраваў драматычным гуртком, які набыў папулярнасць у горадзе. Алейнікаў выконваў камедыйныя ролі, захапляўся мастацкім чытаннем. Ведаў на памяць многія вершы Францішка Багушэвіча, Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, паэму "Тарас на Парнасе".

У камуне яму пашанцавала сустрэцца з вядомым Б. Кумельскім — заслужаным артыстам РСФСР, і ён параіў юнаку вучыцца.

Відаць, натхнёны гэтай падтрымкай, Пётр Алейнікаў пасля заканчэння сярэдняй школы адправіўся ў Ленінград для паступлення ў інстытут сцэнічных мастацтваў. Конкурс быў ашаламляльны — на 40 месц ажно тысяча заяў. Але наш зямляк удала прайшоў сіта адбору і быў залічаны на кінематаграфічнае аддзяленне да заслужанага дзеяча мастацтваў РСФСР Сяргея Герасімава. Алейнікаву пашанцавала на добрага настаўніка, які рыхтаваў спецыялістаў з разлікам на сумесную працу. Невыпадкова ў яго фільмах здымаліся многія студэнты; гэтак і Алейнікаў пачынае здымацца ў кінафільмах, выконвае ролі ў карцінах "Я кахаю", "Сустрэчы", "Сяляне".

Даведаўшыся, што "Белдзяржкіно" знаходзіцца ў Ленінградзе, ён адправіўся на беларускую кінафабрыку. Вядома, што Алейнікаў быў загаварыў на роднай мове, але на яго паглядзелі, як на дзівака. У другі раз Пятра сустрэлі абыякава, паставіліся да яго пыхліва: надта ўжо карцела пачаткоўцу штосьці зрабіць для роднай Беларусі...

Але Сяргей Герасімаў Алейнікава так проста не адпусціў. Запрасіў на ролю Пецькі Малібогі ў кінафільме "Сямёра смелых": поспех быў сенсацыйны.

Пасля здымак у фільме "За Савецкую Радзіму" П. Алейнікаў у карціне "Камсамольск" выконвае ролю вясёлага юнака, які прыехаў на Далёкі Усход будаваць новы горад. Не галоўная роля выпала Пятру Алейнікаву ў фільме "Трактарысты". Тым не менш ён запомніўся гледачам. У кінафільме пра шахцёраў "Вялікае жыццё" Алейнікаў выканаў ролю маладога забойшчыка Вані Курскага — гэта была чарговая ўдача артыста...

...А потым прыйшла цяжкая часіна. Артыст не здымаўся многія гады, вымушаны быў калясіць па краіне, выступаючы ў эстрадных канцэртах. Спадзяваўся вярнуцца на экран, — гэтага вымагалі і гледачы ў шматлікіх лістах.

Ён не шкадаваў сябе. Набыў мокры плеўрыт. Пасля аперацыі астаўся з адным лёгкім. Зачасціў на Шклоўшчыну. У адпачынку і працы на лузе бавіў час з землякамі. Бываў на Радзіме з канцэртнай брыгадай.

Пасля адной такой паездкі на радзіму яго, нарэшце, запрасіў рэжысёр "Туркменфільма" Булат Мансураў зняцца ў фільме "Наталенне смагі".

Здымкі сталіся апошнімі для Пятра Алейнікава: 8 чэрвеня 1965 года яго не стала.

Пётр Алейнікаў заслугоўвае нашай памяці. Заслугоўвае ўшанавання і павагі. Знакаміты беларус. Непаўторны артыст.

**Л. АНЦІПЕНКА,**
**рэдактар шклоўскай раённай газеты "Ударны фронт"**

ЛІМ
ЧАСАПІС



# ПЕРШЫЯ ПРОМНІ "ПРАМЕНЯ"

У самым канцы мінулага года, а калі дакладней, то 27 снежня, выйшаў першы нумар газеты беларусаў Латвіі "Прамень". У звароце "Да беларусаў Латвіі" гаварылася: "Паважаныя суайчыннікі! Сёння вы трымаеце ў руках і здзіўлена разглядваеце першы нумар газеты "Прамень", надрукаваны на вашай роднай беларускай мове. Цяплей зрабілася ў вас на сэрцы, бо менавіта з сённяшняга дня вы адчуеце сябе не такімі ўжо адарванымі ад сваёй матулі-радзімы і адзін ад аднаго тут, у Латвіі.

Невялічкая пакуль што наша газета — гэта першая ластавачка, што прыляцела да нас з роднай зямлі, гэта дрыготкі праменьчык азяючага над новай Беларуссю сонейка. Хай сабе і невялічкая, але колькі радасці падаруе яна кожнаму беларусу: і мову нагадвае, і верне ў нашы душы раўнавагу і ўпэўненасць".

У нумары былі віншаванні Управы згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", старшыні таварыства "Беларусь —Латвія" С. Панізніка, сакратарыята Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, рэдакцыі газеты "Наша слова". У нумары былі цікавыя матэрыялы галоўнага рэдактара "Праменя" Л. Шакаўца "Беларусь" усім багата: ёсць для поля, ёсць для хаты...", прадпрымальніка В. Піскуновай "Што год наступны нам рыхтуе...", Т. Касухі "І рукі прагнуць пэндзля" і іншыя.

Калі першы нумар "Праменя" выйшаў фарматам "ЛіМа" (усяго чатыры старонкі), другі, які пазначаны 29 студзеня 1995 года — фарматам "Звязды". Названы ўжо і тыраж — 3 тысячы экземпляраў, перыядычнасць — адзін раз у месяц.

А на яго старонках — слова дырэктара Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны, прэзідэнта Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў А. Мальдзіса з выпадку выхаду першага нумара газеты — "Свяці і напамінай!", артыкул Н. Гілевіча "Якой жа будзе наша мова беларуская?", рэпартаж са справаздачнага сходу Таварыства беларускай мовы "Прамень" імя Ф. Скарыны "Заззяў "Прамень" справаздачай", выступленне Г. Сурмач "І пра нас, беларусаў, ведаюць у свеце!", слова А. Міцкевіч пра М. Гусоўскага "Самы таленавіты і самы адукаваны ўсходні славянін" і слова Л. Шакаўца "Усё ад бярозаў паходзіць" у сувязі з 70-годдзем Бярэзінскага запаведніка... Толькі першыя промні "Праменя"... Хай жа свеціць ён доўга, ярка і шчодра!

А.М.

# "ЗАКАХАНАЯ" ВЯРНУЛАСЯ. ХІТРАМУДРА?



Класічная камедыя Лопэ дэ Вэгі "Хітрамудрая закаханая" вярнулася на магілёўскія падмосткі (завітаўшы ў 1966 годзе).

Гэты раз — у рэжысуры Ігара Перапёлкіна, у мастакоўскім вырашэнні Алега Рыбакова і з пастаноўкаю іспанскіх танцаў Зояй Макарэвіч. У спектаклі заняты два склады: В. Амяльчэня і Г. Лабанок, З. Бурцава і Г. Ігначова, В. Галкін, У. Пятровіч, А. Дудзіч і Я. Белацаркоўская, А. Паноў, А. Ташкіноў...

Шматнаселеная камедыя чаго толькі ні вымагае: і пастановачных сродкаў, і трэнінгаў па пластыцы, і ўрокаў фехтавання, і ўменне рухацца ў доўгіх спадніцах ды спрытна абыходзіцца з вахлікам... А таксама майстэрства адчуваць стыль, эпоху ды мець на ўвазе сучаснасць. Апошняга, здаецца, магілёўскім акцёрам ніколі не бракавала...

*НА ЗДЫМКУ: Галіна Лабанок (Фяніса) і Алена Дудзіч (Херарда).*

*Фота Вадзіма КУСТОВА*



*Марка Ганчаў — адзін з самых вядомых і аўтарытэтных сёння майстроў паэтычнага слова ў Балгарыі. Яго пяру належыць каля дзесяці кніг лірыкі і, мабыць, столькі ж кніг сатырычнай паэзіі. Лірыка яго, як правіла, тужлівая, журботная, горка-іранічная, і непрыкметна пераходзіць у сатыру, якая таксама ў яго не злосная, а горкая, балючая, хоць і вострая... М. Ганчаў пераклаў на балгарскую мову старажытнаіндускі эпас "Махабхарата" і "Рамаяна", асобныя творы французскіх, нямецкіх і рускіх пісьменнікаў. Таксама і беларускіх. Усё жыццё працаваў у рэдакцыях газет і часопісаў, у выдавецтвах, апошнія гады быў рэдактарам газеты балгарскіх пісьменнікаў "Литературен форум". З канца 1993 года — Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Балгарыі ў Рэспубліцы Беларусь.*

*Вершы, якія прапануюцца ўвазе чытачоў, напісаны аўтарам у 70—80-я гады.*

Марка ГАНЧАЎ

## РАЗУМНЫ ЧЫТАЧ

"Для разумных пісацьму! —
сказаў сабе аўтар. —
Не так, каб змест быў
відзён наскрозь,
А — з падтэкстам, з намёкам,
з хітрай прыпраўкай.
Ёсць жа ў нас і разумны чытач,
нябось!.."

І, прыклаўшы старанне
ў майстэрстве тонкім,
Шмат рэчаў сказаў не абы-якіх,
Але так нестандартна, што толькі
Разумны чытач мог спасцігнуць іх.

Разумны чытач прачытаў іх удумна,
Ды не ўспыхнуў святлом зіхаткім,
А пацісну плячыма, скісліўся сумна,
Сцяў губы сярдзіта і хмыкнуў: — Хм!

Потым доўга бурчэў асуджальна:
— Дурань аўтар!
Інакш не магу і лічыць:
Такія рэчы сказаў, пра якія звычайна
Чалавек разумны — маўчыць...

## І СЯГОННЯШНІ

Дзеці, гэй, за стол!
Пры бацьку-матцы
Ешце ўволю, каб не пахудзелі,
Бо, відаць, адно на вас грамадства
Ускладае ўсе свае надзеі.

Мы, бацькі, яго ўжо не цікавім:
Не хлусы, не цынікі, не сцервы, —
Надта нораў выхаваны маем.
Вы развейце сум яго нясцерпны!

Нарабіце гадства, каб адчула
Нораў ваш, з якім і проста й лёгка,
І нарэшце з горыччу ўздыхнула:
"Яблычак не падае далёка..."

Гэты сілагізм вусны шэльмаў
Перавернуць і з канца падхопяць —
Скажуць: менавіта з добрых сем'яў
Лайдакі найбольшыя выходзяць.

Дык хутчэй за стол! І, калі ласка,
З'ешце ўсё, што ў місы накрамсана.
Ешце! Вы — дзень заўтрашні
грамадства.
Зрэшты, і сягонняшні таксама.

## АДПАЛІ ПЕРАСАДЖАНЫЯ СЭРЦЫ

Адпалі перасаджаныя сэрцы,
Як спечаныя спёкаю пупышкі.
Калі сачылі мы за іхняй смерцю —
Экран іскрылі дрыжыкаў успышкі.

Канаючы ў апошніх курчах, цела
Адторгла сэрца, што яму служыла
І кроў і ласку, хай сабе нясмела,
А ўсё ж ганяла па ягоных жылах.

З супрацьўленнем справіцца навука
Не можа — так усталявала вечнасць.
Падумайце ж пра тых,
хто хоча ў муках
Пересадзіць не сэрца, а сардэчнасць.

## ЗЯМНЫЯ ЛЮДЗІ

Уладу — дай ім! Грошы — дай!
А спрэчку так канчаюць порстка:
"Людзей занадта не карай —
Зямныя мы. Нашто ж так жорстка?"

Вось так: зямных не вінаваць!
Але ж тады... скажыце, людзі:
Чаму вам гэтак напляваць,
Што з ёй, зямлёю нашай, будзе?

## СЦЯНА

Госці ў гасцінай,
дзе кухлі падносяць, —
Людзі, звычайна, крыклівыя досыць:
Кожны, навыперадкі ці ўслед,
З усіх сіл крытыкуе свет.

Так, але дзеці ў пакоі суседнім
Перакрываюць наш
крык усясветны —
Ладзячы гульні-забавы свае,
Хваляць свет, колькі сілы стае.

— Што ж, бяды тут не трэба
бачыць —
Ісціна пасярэдзіне, значыць.
— Пасярэдзіне, кажаш, яна?
Пасярэдзіне, братка, сцяна.

## ХАЛОДНЫЯ ДРЫЖЫКІ

Не знаю, храбры быў ці кволы
Салдат-фашыст, ідучы ў бой,
А на падворку нашай школы
Ён, безумоўна, быў герой.

Марознай раніцай вадою
Ён абліваў сябе ўсяго —
Але пад пенай ледзяною
Не бралі дрыжыкі яго.

Ён не хацеў чакаць да цёплай
Пары, бо знаць не мог ваяк,
На дне магілы ці ў акопе
Наступны мецьме ён бівак.

А можа, смерць сваім дыханнем
Яго ўжо зблізку абдала —
І ў параўнанні з ёй тым раннем
Вада сцюдзёнай не была?

Які, не знаю, лёс ягоны.
Адно запомніў я навек,
Што люты звер, калі быў голы,
Ён быў не звер, а чалавек.

## СУСТРЭЧНЫ КРЫК

Такім застаў я гэты свет і, мабыць,
Такім пакіну ў нейкі дзень яго:
Расцятым напал
ад сустрэчных крыкаў.
Ах, як крычаў мой дзед
праз агароджу
Суседу нашаму і як жа той
Стараўся дзеду доўг сплаціць
імгненна!
І я аднойчы, цераз стол рабочы,
Пачаў калегам штосьці крычаць, якія
Таксама штосьці крычалі гучна мне.
Дзяржавы штосьці крычаць
цераз граніцу —
У мегафоны ды і ў мегатоны.
О, Госпадзі, навошта гэты крык?
Няўжо не можна ціха і спакойна?
Паслухаўшы, пра што крычыцца
столькі,
Я ўслупянеў ад адкрыцця: папраўдзе,
Дзяліць няма чаго, папраўдзе, кожны
Сам да сябе крычыць.
Адна палова,
Упэўненая ў нутры нас у нечым,
Крычыць другой няўпэўненай. Або
Наадварот — нясмелая крычыць
Упэўненай, для самапачування.
Але калі любы пачне прылюдна
Сам да сябе крычаць,
з сабой спрачацца, —
Што пра яго падумаюць? Вар'ят!
Таму ў нас розныя паловы нашы
Адна другой даюць правы ўзаемна
Адной крычаць штосілы да другой.
І як ні дзіўна ў лёсу вечнай дзеі,
Якраз тады, калі няма надзеі,
Што хоць адзін пачуты
будзе з нас —
Свет кажа: гэта не найгоршы час.

## МУЖНАЯ БАБА

Баба наша — ну, ведама, баба,
Думаў я. Яна ж перад смерцю
Не толькі не чулася слаба,
А надзіва мужна, паверце.

Са свайго смяротнага ложа
У аконца глядзела доўга
І свяцілася: — Госпадзі Божа,
Да чаго ж на зямлі цудоўна!

І ўсё божкала так, без увагі
На мяне, ужо не малога,
Што магу падумаць: ад страху,
Бач, паддобрываецца да Бога.

## СТАРЫ ПАЭТ

Ён кніг не мае — не агораў
Ніводнай... Згорблены, як гном,
Надзіва ўсім на бераг мора
Прыехаў ён у Творчы Дом.

На пляж не ходзіць. Безупынку,
Сабою сфінкса ўдаючы,
Дзяўбе й дзяўбе сваю машынку,
Парою — нават і ўначы.

Аднойчы неяк, памылкова,
Я да яго ў пакой забег —
І мне адкрыўся выпадкова
Анекдатычны старцаў грэх.

О, Божа, ён жа не друкуе,
І ліст на валік не кладзе.
Але каб чулі, што працуе —
Пустыя клавішы дзяўбе!

Пытанне ўсё ж лічу адкрытым:
А можа, ён і ёсць паэт —
Які не словамі, а рытмам
Скарыў сабе будзённы свет?

## СТРАХ ЗА СКУРУ

Учора ўвечары,
Калі я разразаў
Скурку на баранчыку запечаным,
Хтосьці, настроены
На тэмы вечныя,
Перш чым голад наталіць,
Сказаў:
— Усім нам страх,
Прызнаемся, браткі,
За скуру за сваю —
Бо час такі.
І мне, як і істоце кожнай,
За скуру за сваю трывожна.
І я гатоў на крок любы —
Плаціць і здрадай і хлуснёй,
Каб толькі нож адвёдзен быў
Ад скуры ад маёй...

Тут,
Рэжучы запечаную скурку,
Я прыпыніўся ўсё ж
І паглядзеў на нож.
Не дакранаўся ён да скуры нашай,
А толькі — да запечанай ягнячай.

Ах, мілыя!
Нашто гуляць у жмуркі?
Нам страх за іншае —
І страх, і жах:
Каб гэтая запечаная скурка
У нас не выслізнула
З-пад нажа...

## НЕ ХАЧУ ІХ ЗНАЦЬ

Раз муза не са мной — няма і сэнсу
Выходзіць з дому, вулкамі снаваць,
Каб людзі бачылі, як цяжка сэрцу.
Нашто яны мне? Не хачу іх знаць.

Праз колькі дзён глядзяць:
мне ўжо адлегла.
Што муза зноў са мною —
не схаваць.
Купляю сшытак — і дадому бегма:
Цяпер тым больш я не хачу іх знаць!

З балгарскай пераклаў
Ніл ГІЛЕВІЧ

## ПА ТВОРАХ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ

**У Цэнтральным Доме афіцэраў была паказана літаратурна-мастацкая праграма па матывах творчасці народнага паэта Беларусі Петруся Броўкі. Прыйшлі ваеннаслужачыя, курсанты, супрацоўнікі літаратурных музеяў, іншыя прыхільнікі яго творчасці. Вядучы супрацоўнік Дома афіцэраў А. Верабей паведаміў, што мерапрыемства праводзіцца як ушанаванне памяці Петруся Усцінавіча, з дня нараджэння якога сёлета 25 чэрвеня спаўняецца 90 гадоў.**

**Уступнае слова да праграмы зрабіў літаратуразнавец і музейны работнік М. Пратасевіч. А. Савіцкі, П. Прыходзька, А. Слесарэнка нагадалі асобныя моманты сваіх сустрэч з П. Броўкам. П. Прыходзька прачытаў свае вершы, а А. Слесарэнка — гумарыстычныя творы Петруся Усцінавіча.**

**У канцэрце прынялі ўдзел дзіцячы ансамбль "Вавёрачка", ансамбль "Менскі гармонік"... Завяршальным акордам праграмы стала песня кіраўніка гэтага ансамбля І. Раманчука на верш П. Броўкі "Будзь верны".**

**М. СТЭФАНОВІЧ**

## ПАМЯЦІ ВЫДАТНАГА ВУЧОНАГА І ПІСЬМЕННІКА

**Імя Уладзіміра Калесніка шырока вядома ў нашай краіне і асабліва на Берасцейшчыне. Нарадзіўся на Гродзеншчыне, быў у гады вайны партызанам-мінёрам. А пасля заканчэння Мінскага педінстытута і аспірантуры працаваў больш за 40 гадоў у Брэсцкім педінстытуце. Прафесар і пісьменнік, грамадскі дзеяч, сумленны і добразычлівы чалавек. Выхаваў не адзін дзесятак навукоўцаў і выгадаваў вялікую плеяду пісьменнікаў і паэтаў на гераічнай брэсцкай зямлі.**

**З мэтай ушанавання памяці У. Калесніка Брэсцкі аблвыканкам вырашыў устанавіць мемарыяльную дошку на доме, дзе ён жыў, а ў педінстытуце назваць адну з аўдыторый яго імем. Зроблена таксама хадайніцтва перад Кабінетам Міністраў рэспублікі аб больш шырокім ушанаванні выдатнага вучонага і пісьменніка.**

**А. ХАРЛАМАЎ**

## УШАНАВАЛІ ПАЭТА-ФРАНТАВІКА

**Магілёўскаму паэту Васілю Карпечанку сёлета споўнілася 70 гадоў. З гэтай нагоды адбылася творчая вечарына ў Магілёўскай абласной бібліятэцы. Аб творчасці юбіляра расказаў дэкан філфака Магілёўскага педінстытута Я. Клімуць. Сакратар абласной пісьменніцкай арганізацыі У. Дуктаў пазнаёміў прысутных з жыццёвым шляхам франтавіка, настаўніка і паэта. Юбіляра павіншавалі М. Лук'янаў, начальнік упраўлення культуры аблвыканкама М. Дарашкоў, намеснік старшыні Магілёўскага райвыканкама В. Яленскі, дырэктар абласной бібліятэкі В. Баранава, настаўніца К. Сазонава, намеснік начальніка ўпраўлення камерцыйнага банка А. Бардзюкоў. Вядучыя вечарыны студэнтка І. Язвінская і вучань А. Марчанка здолелі стварыць атмасферу шчырасці і нязмушанасці. Дапамаглі ім у гэтым кампазіцыі па творах юбіляра, з якімі выступілі заслужаны работнік культуры В. Ермаловіч і хлопчыкі і дзяўчынкі з сёмага беларускамоўнага класа сярэдняй школы N 35 Магілёва, якія даўно ўжо сябруюць з паэтам. Эмацыянальным было і віншаванне вучняў і настаўнікаў Рэчкаўскай сярэдняй школы Магілёўскага раёна, дзе на працягу больш трыццаці гадоў В. Карпечанка выкладаў родную мову і літаратуру.**

**З хваляваннем прымаў юбіляр з іх рук каравай, слухаў песню "Сустрэча" на ўласныя словы ў выкананні самадзейнага кампазітара М. Яцкова.**

**Да месца была і выстаўка-агляд жыцця і творчасці паэта-франтавіка.**

**У. САСНОЎКІН**

## І Ў ДРУГІМ НУМАРЫ

**беластоцкага "Часопіса" за сёлетні год ёсць матэрыялы, з якімі не лішне пазнаёміцца. Змешчаны нататка В. Чаропкі "Хто такі Альгерд?", змястоўны каляндар на люты "...гадоў таму", кіпрскія замалёўкі М. Сахарэвіча "Востраў добрых людзей", успаміны пра бежанства "Пражыць бы толькі", рэцэнзія С. Яновіча на кнігу В. Харужага "Беларускі непадцэнзурны друк у Польшчы, 1981—1990", што выйшла па-польску, іншыя матэрыялы.**

# Заір АЗГУР



Беларуская культура панесла цяжкую страту. На 88-м годзе жыцця памёр выдатны беларускі скульптар, народны мастак Беларусі і СССР, правадзейны член Акадэміі мастацтваў СССР, лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР, Герой Сацыялістычнай Працы Заір Ісакавіч Азгур.

З. І. Азгур нарадзіўся 2 студзеня 1908 года ў вёсцы Маўчаны Сенненскага раёна на Віцебшчыне. Прафесіянальную адукацыю атрымаў у Віцебскім мастацкім тэхнікуме, Вышэйшым мастацка-тэхнічным інстытуце ў Ленінградзе, у Кіеўскім мастацкім інстытуце і Тбіліскай акадэміі мастацтваў. З 1923 года Заір Ісакавіч прымаў актыўны ўдзел у айчынных і замежных мастацкіх выстаўках. У 30-я гады З. І. Азгур стварыў шэраг твораў для грамадскіх і адміністрацыйных будынкаў, у тым ліку для Дома ўрада ў Мінску. Аднак галоўнае месца ў яго творчасці займае праца над партрэтамі нашых сучаснікаў, грамадскіх і палітычных дзеячаў, выдатных рэвалюцыянераў і палкаводцаў мінулага, яскравых прадстаўнікоў творчай і навуковай інтэлігенцыі.

Цікавасць З. І. Азгура да чалавека, жаданне дасканала ўвасобіць яго пластычнымі сродкамі прывялі да таго, што менавіта партрэт заняў у творчасці скульптара такое выдатнае месца. У залаты фонд выяўленчага мастацтва назаўсёды ўвайшла бліскучая галерэя партрэтных вобразаў воінаў і партызан, створаных мастаком у гады Вялікай Айчыннай вайны. Дакладнасць пластычнага малюнка, рытмічная зладжанасць кампазіцыі, глыбокая псіхалагічнасць, гранічная завершанасць формаў спалучаюцца ў гэтых творах з рамантычнай узвышанасцю, урачыстасцю, якія падкрэсліваюць героіку народнага подзвігу. Генерал Леў Даватар, партызанскі важак Мінай Шмыроў, легендарны дзед Талаш, снайпер Фядос Смалячкоў, лётчыкі Віктар Талаліхін і Мікалай Гастэла — глыбокая праўда гучыць у гэтых вобразах. Яны — як дакументальнае і ў той жа час мастацкае ўвасабленне гераічнага часу.

Але не толькі партрэтны жанр вабіў З.І.Азгура. Шырока вядомыя ягоныя здзяйсненні ў манументальнай скульптуры — ансамбль помніка Якубу Коласу ў Мінску, шматлікія манументы і помнікі-бюсты дзяржаўным дзеячам, героям-патрыётам і творцам, сярод якіх П. Машэраў, С. Грыцавец, Ф. Скарына, Ф. Багушэвіч, Я. Купала, Л. Александроўская. Многія творы З. І. Азгура паспяхова прадстаўляюць наша мастацтва далёка за межамі Беларусі. Велічны помнік Рабіндранату Тагору ўстаноўлены ў Калькуце, шмат твораў мастака ўпрыгожваюць музеі краін СНД.

З. І. Азгур сам стварыў каментарый да свайго жыцця, да сваёй творчасці. Ён напісаў тры тамы ўспамінаў і творчых нататак. У гэтых кнігах — тлумачэнні і абарона сваёй, менавіта рэалістычнай пазіцыі. Пры гэтым мастак абапіраецца не толькі на выяўленчае мастацтва, але і паэзію, музыку, тэатр. Бо сярод ягоных бліжэйшых сяброў былі Купала, Я. Колас, З. Бядуля, К. Чорны, А. Адамовіч, А. Куляшоў, У. Дзядзюшка, Р. Шырма, М. Аладаў. Родная Беларусь, яе гісторыя, яе народ — вось тыя вытокі, якія больш за 70 гадоў творчага жыцця сілкавалі і натхнялі мастацтва Майстра. Сутнасць ягонай творчасці — спасціжэнне чалавека ў самых розных праявах духоўнага, інтэлектуальнага жыцця.

Шырокай і шматграннай была грамадская дзейнасць З. І. Азгура. Ён неаднаразова выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, актыўна ўдзельнічаў у рабоце многіх грамадскіх арганізацый, з'яўляўся старшыней рэспубліканскай камісіі па садзейнічанні Савецкаму фонду міру. З 1981 года ўзначальваў творчую майстэрню скульптуры Акадэміі мастацтваў у Мінску.

За вялікія заслугі ў галіне выяўленчага мастацтва яму нададзена званне Героя Сацыялістычнай Працы, ён узнагароджаны многімі ордэнамі і медалямі, двойчы яму прысвойвалася Дзяржаўная прэмія СССР.

Светлая памяць пра выдатнага мастака-рэаліста, патрыёта, грамадзяніна, добрага і спагадлівага, энцыклапедычна адукаванага чалавека Заіра Ісакавіча Азгура заўсёды застанецца ў сэрцах людзей.

**Лукашэнка А. Р., Грыб М. І., Чыгір М. М., Русакевіч У. В., Бутэвіч А. І., Адашкевіч С. А., Андрэйчанка У. П., Буралкін Г. В., Гуміleўскі Л. М., Даўгяла В. Ц., Дудараў А. А., Зуёнак В. В., Красінскі А. В., Курачкін А. Р., Лучанок І. М., Лятун У. М., Міско І. Я., Паплаўскі Г. Г., Роўда В. У., Савіцкі М. А., Сушчэня Л. М., Максім Танк (Скурко Я. І.), Чыгрынаў І. Г., Шамякін І. П., Ярмошын У. В., Яроменка М. М.**

# ЁН НІ ДНЯ НЕ ПРАЖЫЎ БЕЗ РАБОТЫ...

Віцебскі цырульнік Нохум са Школьнаслабадской вуліцы быў першым прафесійным куафёрам, чые нажніцы краналі кудлы хлопчыка Заіркі. І абыходжанне было з ім, з кліентам, ну самае ветлівае. Хлопчык, вярнуўшыся дадому, крыкнуў маці: "Мам, пан Нохум з мяне зрабіў маэстра..." Маці спыталася, што гэта азначае — маэстра? "Але, я — не Заірка, я — маэстра віцебскі!.."

Было штосьці ў гэткім самаадчуванні хлопца. Ён яшчэ толькі пачынаў для самога сябе і для суседзяў рабіць з гліны фігуркі жывёл, птушак, а яго "заказчыкі" і "пакупнікі" — сама "вуліца" — ужо ахрысціла яго гэтым урачыстым і не зусім пэўным імем, не падазраючы, што яно запазычана з італійскай мовы — ма-эс-тра.

Калі малады скульптар Заір Азгур упершыню выставіў партрэтную статую ў экспазіцыі тагачаснага Віцебскага мастацкага вучылішча, той жа куафёр Нохум са Школьнаслабадской, вастрыючы на скураным рамні брытву, пачціва гаварыў: "А што я вам казаў, шаноўны маэстра, год таму? Вы такі будзеце Мікеланджэла віцебскім! Хай вам тады прыгадаецца маё прароцтва..."

Блізка ведаючы Заіра Азгура, я заўсёды здзіўляўся яго працавітасці. Заўжды сустракаў ён узыход сонца пад дахам майстэрні з інструментамі ў руках. На станку перад ім высілася глыба гліны, і ад яе павявала рачной вільгаццю, пахам чароту, ветрыкам з сасновага бору. Рыдлёўка або шпунт у руках маэстра пускаліся ў ход, і ад гліны адвальваліся кавалак за кавалкам. На станку спакваля абазначаўся сілуэт... абрысы...контур... І вы з парога майстэрні здагадваліся:

— Алесь Адамовіч? Ён...

І маэстра з добрай усмешкай прыгадваў, аб чым яны спрачаліся надоечы, калі "Саша" пазіраваў, нібы і не здагадваючыся аб тым, што скульптар яго "правацыруе" на спрэчку, каб злавіць і замацаваць у партрэце самы характэрны выраз твару.

На паліцах майстэрні скульптара — інструменты, якімі ён здабываў з камлыгі зямлі постаці Міколы Гусоўскага, Паўлюка Багрыма альбо Васіля Цяпінскага, з граніта — Кастуся Каліноўскага, з мармуру — паэткі Цёткі...

Пачаўшы пералічваць імёны, я схамянуўся: мабыць, і газетная паласа не змесціць спіс соцень мастацкіх твораў Заіра Азгура. У Саюзе пісьменнікаў Беларусі да апошніх гадоў жартавалі, і не без падстаў, што палову сапраўдных літаратараў сучаснасці, сабраных разам, вы можаце сустрэць пад дахам майстэрні Азгура. Пра ўлюбёнцаў-артыстаў і казаць няма чаго: тут і Крыловіч, і Дзядзюшка, і Галубок, і Ржэцкая, і Малчанаў, і Грыгоніс... "Філіял тэатра" — такой слыннай была гэтая майстэрня. Дзяржаўныя мужы — розныя генералы і наркомы, міністры і старшыні — узмахам рукі правядуць справа налева і пакажуць наведвальніку Панамарэнку і Машэрава, Мазурава і Цішку Гартнага. Ну і зразумела — былых правадыроў: Леніна, Сталіна. Маршалаў — Жукава, Ракасоўскага. Бацьку Міная...

Можна па-рознаму ставіцца да кожнай з гэтых асоб. Ды тут — пад дахам майстэрні, дзе яны замацаваны як мастацкія адбіткі жывой чалавечай істоты, ты пачынаеш усведамляць, што маэстра быў не адно толькі партрэтыстам. Мастак ствараў — і рабіў гэта свядома, па ўнутранай патрэбе і асаблівасці свайго таленту — гістарычную галерэю ў тварах і абліччах. Кагосьці ён вылепіў амаль па памяці, не зазіраючы ў іканаграфічныя даведнікі (так было, напрыклад, з галавою Леніна). Над кімсьці маэстра пакутаваў, пакуль дабіваўся жаданай мэты.

Але, і пакутаваў... То былі пакуты творчыя, радасныя. Скульптар добра ведаў ці не галоўную з парад, якую юнаком пачуў ад грузіна Якава Нікаладзе, вучня славутага Агюста Радэна: "Вока бачыць — рука лепіць, не бачыць вока — рука маўчыць!"

Сапраўды, угледзьцеся ў манументальныя работы Заіра Азгура, накшталт помніка Якубу Коласу ў Мінску, у камерныя партрэты. Першае, што звяртае ўвагу — падабенства скульптурнай выявы на самога чалавека. Майстар быў тонкім знаўцам анатоміі. Ён ведаў, па якой прычыне ў вас прыплюшчана вока, калі вы злуяцеся, якія рэакцыі залоз вызначаюць ваш рогат або плач.

Я быў сведкам сеанса, калі Заір Азгур прымаў у сваёй старой майстэрні на Усходняй вуліцы знакамітага скульптара Яўгенія Вучэціча. Паставіўшы адзін супроць другога станкі, яны пачалі ляпіць адзін аднаго. Я ўжо збегаў у гастраном на Лагойскую і прынёс тое, што трэба для багемнага настрою. І прачытаў газеты. А яны, нешта гаворачы адзін аднаму, напяваючы сабе пад нос, робячы кароткія перакуры, — завіхаліся і завіхаліся ля станкоў.

Змяркалася, калі абодва адкінулі інструменты.

Перад тым як абгарнуць скульптуры мокрай парусінай (каб гліна не рассыхалася), хадзілі вакол іх. Кожны аглядаў "сябе": які атрымаўся Азгур у Вучэціча і які той — у Азгура. Паціснулі рукі. Пацалаваліся. Селі за стол. Разлілі па кілішках тое, што я прынёс з гастранома.

— Ведаеш, Заір, — сказаў Яўгеній Віктаравіч, — мой дэман вельмі дужы. Ніякая трасца мяне не бярэ і да працы я ахвочы. Ды толькі твой дэман — дужэйшы за майго. Чым? Толькі адным — ты знаўца анатоміі. А таго "аднаго" і дастаткова, каб майму перабегчы дарогу...

Гасцінны гаспадар майстэрні пачаў нешта ветліва аспрэчваць, але дарэмна. Вучэціч спахапіўся, разгарнуў свой партрэт работы Азгура і ўскрыкнуў:

— Ці ж ты не бачыш, на што здатныя тваё вока і твая рука?!

...Колькі гадзін з рукапісамі кніг "Тое, што помніцца" бавілі мы разам! Я ведаю, як уважліва і беражліва ставіўся ён да адцення ў настроі чалавека, пра якога прыгадваў праз шмат гадоў, да нюансу ва ўзаемаадносінах паміж апанентамі і саапернікамі. Ну, мабыць, не трэба гаварыць тут, быццам і ва ўспамінах Заір Азгур працаваў скальпелем альбо рыдлёўкай. Але... Але, было і ў літаратурнай яго працы штосьці ад высокай павагі да чалавечай істоты. У кожным з нас, смяротных і грэшных, ён бачыў і знаходзіў нешта вартае павагі, пашаны, здзіўлення і нават захаплення. Тлумачыў тое прафесійнай звычкай ставіць постаць чалавека на п'едэстал. Так наканавана скульптару — узнімаць і славіць гераічнае і высакароднае, рыцарскае і сумленнае.

Вышэй я сказаў, што некаторыя творы даваліся маэстра праз пакутлівыя творчыя пошукі і роздум. Пакутаваў ён і ад паклёпаў зайздроснікаў. Ад ананімных тэлефонных званкоў. Ад падкідных лістоў. Помню, аднаго разу, скамячыўшы ў нечакана для яго дрыготкіх руках такі ліст, прамовіў:

— Дзівак. Знайшоў за што мяне дакараць: яўрэй Азгур, чуеш, занадта абеларусіўся і не мае права партрэтаваць сыноў Ізраілевых... А надоечы такі ж ананім нагадаў мне наскокі і нападкі на мяне артадокса Антона Уса... быў на Беларусі такі мастацтвазнаўца і партыйны функцыянер... Дык той мяне дакараў за тое, што я асмельваюся і спрабую раскрываць душу беларуса, калі ляплю партрэт Івана Дамінікавіча Луцэвіча або статую спявачкі Александроўскай. Маўляў, лепш займайся "сваімі" Бядулямі, Мі-

Пошта

# "НАЧИНАЕТ ПОКАЗЫВАТЬ РОЖКИ..."

На пасяджэнні "круглага стала" ў Доме літаратара 31 студзеня, дзе вялася гаворка пра выкананне "Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", са здзіўленнем даведаўся, што некаторыя дзеячы на ніве нашай асветы лічаць неабходным і карысным, нават для выпрацоўкі красамоўства, увесці (неяк цішком, неафіцыйны, без праграмы, нібыта нават сарамліва, па-за асноўнымі навучальнымі прадметамі, пад мілай, не вельмі выразнай назвай "Ручеек") выкладанне рускай мовы з першых жа дзён знаходжання дзіцяці ў нацыянальнай школе. Тэарэтычнае абгрунтаванне такога паралельнага вывучэння дзвюх моў з першага класа давалася на навукова-практычным семінары ў Нацыянальным інстытуце адукацыі — там, як падмеціла ў сваёй справаздачы ў "ЛіМе" Галіна Каржанеўская, вучоныя падзяліліся "на два лагеры, дзе беларускі бок прадстаўлялі выключна мужчыны, а "апазіцыю" (то не ўмоўнае вызначэнне, а сутнаснае) — у асноўным дамы", прычым адна з дам "спасылалася нават на дарэвалюцыйную практыку вывучэння моў, і ўсе цытавалі К. Ушынскага".

Сапраўды, праблема вывучэння дзвюх моў у нацыянальных школах мае даўнюю гісторыю — ад таго ж Ушынскага да нашых дзён, і, аддаўшы працы ў выдавецтве "Народная асвета" больш за дзесятак гадоў, я на ўласным вопыце зведаў нялёгкія вынікі перманентнага рэфармавання канцэпцый, праграм і методык паралельнага выкладання моў — роднай і рускай.

Але зараз мне хацелася б падтрымаць пазіцыю мужчын-удзельнікаў навуковага семінара аргументамі адной, у свой час даволі славутай дамы, пра якую энцыклапедычныя даведнікі сведчаць, што яна "выдатны савецкі педагог, ганаровы член АН СССР". Гаворка пойдзе пра Надзею Канстанцінаўну Крупскую, паводле тых жа даведнікаў, "аднаго з старэйшых членаў ЦК ВКП(б), жонку і бліжэйшага памочніка У. І. Леніна".

Руская па нацыянальнасці, яна, апрача рускай, валодала яшчэ англійскай, французскай, нямецкай і польскай мовамі (ведама ж, вучылася ў дарэвалюцыйныя часы!). І што ж? Гэтая рэвалюцыянерка, стаўшы намеснікам наркома асветы, паслядоўна, з 20-х гг. да самай сваёй смерці, выступала за навучанне ў нацыянальнай школе на роднай мове! Калі ў 20-ых гг. у масавым маштабе ажыццяўлялася пачатковая адукацыя, Дзяржаўны вучоны савет Наркамасветы РСФСР (быў такі) распрацаваў "Інструктыўнае пісьмо па выкарыстанні праграм адзінай працоўнай школы ў школах першай і другой ступені". Крупская, якая прымала ўдзел у распрацоўцы "Пісьма", прапанавала, каб першае месца ў гэтых праграмах заняла родная, і толькі родная мова! А калі ў 30-я гг. школы пачалі пераходзіць да прадметных праграм, Крупская выступіла за вылучэнне ў самастойны навучальны прадмет у нацыянальных школах перш за ўсё роднай мовы з 1 класа.

Сёння нельга не адзначыць, што распрацоўка праекта закона аб абавязковым навучанні рускай мовы ў школах нацыянальных рэспублік была пачата ў сумна вядомым 1937 годзе, паводле непасрэднага ўказання кастрычніцкага (1937 г.) пленума ЦК ВКП(б). 7 сакавіка 1938 г. пытанні ўвядзення абавязковага выкладання рускай мовы ў нярускіх школах былі прадметам спецыяльнай нарады ў ЦК ВКП(б). А ўжо 13 сакавіка таго ж года выйшла пастанова СНК СССР і ЦК ВКП(б) на гэту тэму.

Яшчэ да прыняцця пастановы, у дзень нарады ў ЦК, Н. К. Крупская звярнулася з пісьмом да генсека І. В. Сталіна. (Для таго, каб сённяшнія ультра-рэвалюцыянеры ад асветы маглі найлепш пранікнуцца поглядамі члена ЦК ВКП(б) Крупскай на праблему, хочацца прывесці цытаты на рускай мове, так сказаць, у першапачатковым, некранутым выглядзе.)

"Дорогой Иосиф Виссарионович, по обыкновению, пишу Вам о волнующем меня вопросе.

Мы вводим обязательное обучение русскому языку во всем СССР. Это хорошо. Это поможет углублению дружбы народов.

Но меня очень беспокоит, как мы это обучение будем проводить.

Мне сдается иногда, что начинает показывать немного рожки великодержавный шовинизм.

Например, я считаю вредным введение преподавания письма и чтения на первом году обучения не только на материнском, но и на русском языке, считаю вредным введение единого букваря для всех народностей, переведенного с русского. Считаю очень важной правильную постановку подготовки преподавателей русского языка".

У адрозненне ад нашых заўзятых змагароў за "язык межнационального общения", Н. К. Крупская ў 1938 г. была больш аб'ектыўнай і дальнабачнай і бачыла, якую шкоду нясе ўвядзенне рускай мовы з 1 класа, выкладанне яе дзецям, у якіх яшчэ толькі пачынае фарміравацца нацыянальнае самавызначэнне. У тым жа лісце яна піша пра сумныя вынікі паспешлівага пераключэння іх на рускую мову:

"Среди ребят появилось ругательное слово "жид", малышка говорит: "дедушка, я не хочу быть латышкой". Правда, пока это отдельные случаи, но все же нужна известная осторожность".

Атрымаўшы гэты ліст таварыша па партыі і яе "слаўным ленінскім ЦК", "дорогой Иосиф Виссарионович", ап'янелы ад крыві разгромленых і ліквідаваных ім і яго падручнымі "нацыяналістаў", паклаў яго пад сукно на многія дзесяцігоддзі. У генсека былі іншыя мэты і задачы. Руская мова была для яго толькі "великим и могучим" сродкам падаўлення найменшых спроб нацыянальных рэспублік праявіць сваю, дэклараваную ім, самастойнасць. Ён не хаваў сваіх поглядаў на гэту "самастойнасць". Яшчэ ў верасні 1922 г. Сталін пісаў Леніну:

"Молодое поколение коммунистов на окраинах игру в независимость отказывается понимать как игру, упорно признавая слова о независимости за чистую монету и также упорно требуя от нас проведения в жизнь буквы Конституции независимых республик".

Напісана даўно, а яшчэ і сёння знаходзяцца дзеячы — на розных узроўнях улады, — якім вельмі хацелася б бачыць у аб'яўленні былымі саюзнымі рэспублікамі незалежнасці толькі гульню ў "парад суверэнітэтаў" (як з'едліва гучыць у іх вуснах гэты "парад"!). І родная мова народа, і выпакутаваная стагоддзямі нацыянальная сімволіка — для іх толькі "гульня", якую можна прадаўжаць, а можна, калі некаму моцна захочацца, і перапыніць. І недзе там, у замагіллі, ім усміхаецца генсек Сталін...

**Алесь МАЖЭЙКА**
*г. Мінск*

# АДСТУПНІЦТВА

Яшчэ на Беларускім тэлебачанні зачытваюцца аб'явы аб правядзенні конкурсу на замяшчэнне вакантных пасад дыктараў, дзе адной з галоўных умоў перад удзельнікамі ставіцца задача дасканала ведаць беларускую мову. Яшчэ "гласом вопиющего в пустыне" перад непарушнай цвярдыняй Канстытуцыі Беларусі, перад маналітнымі шэрагамі сіл нацыянальнага Адраджэння можа аказацца заклік самаўпэўненага, але не пазбаўленага чалавечых заган прэзідэнта Лукашэнкі аб правядзенні рэферэндуму наконт брацка-бальшавіцкага двухмоўя ў нашай краіне.

Яшчэ, здавалася б, няма падстаў біць трывогу адносна ролі дзяржаўнасці беларускай мовы. Тым не меней, гэта не так. За чатыры з паловай гады пасля ўводу ў дзеянне Закона аб мовах беларуская мова ў якасці дзяржаўнай так і не ўсталявалася ні ў адной сферы грамадскага жыцця. Больш таго, людзі бальшавіцкага гарту, кіраўнічыя здольнасці якіх захоўваюцца незалежна ні ад якіх абставін, забяспечылі ў дадзены момант у пашырэнні дзяржаўных правоў і функцый беларускай мовы бадай што ленінскі прынцып, які стаў крылатым выслоўем: "Крок наперад -- два крокі назад".

Магчыма, гэта ўсё гучыць некалькі ўмоўна, але парадаксальна-абсурдная сутнасць гэтага прынцыпу-выслоўя, бясспрэчна, характэрна для цяперашняй моўнай сітуацыі. У штыкі сустракаюць нацыянальна-дзяржаўную мову каманда прэзідэнта, Кабінет Міністраў. Не расце колькасць беларускамоўных дэпутатаў у Вярхоўным Савеце краіны. Абыякава адносяцца да роднага слова, фактычна ігнаруюць яго дзяржаўныя ўстановы, арганізацыі бадай што ўсіх профіляў, нават, у значнай меры, культурныя і адукацыйныя.

Гэта, вядома, турбуе, але гэта не галоўная турбота. Чалавек жыве пад знакам надзеі. Таму і цепліцца ў душы спадзяванне, што там, дзе яшчэ руху наперад не было, ён яшчэ будзе, а тое, што рухаецца марудна, пачне рухацца хутчэй. Вядома, і таптанне на месцы ў рэшце рэшт пачынае надакучваць, параджае безнадзейнасць, а то і роспач.

Але горш, калі пачынаецца зваротная хада падзей, гэта значыць, тыя самыя крокі назад. Да ўсталявання беларускай мовы ў якасці дзяржаўнай яшчэ крочыць і крочыць, імкліва паскараючы хаду, наперад. А ўжо, між тым, заўважаюцца крокі ў зваротным кірунку, у кірунку адступлення. У гэтым сэнсе асабліва вылучаюцца сродкі масавай інфармацыі, скажам, тое ж тэлебачанне.

Тым, хто не забыў "эпоху" Г. Бураўкіна на тэлебачанні і радыё, наўрад ці магло прыйсці ў галаву, што пазіцыі беларускай мовы, заваяваныя ў час яе недзяржаўнасці, гэтак пахіснуцца пасля таго, як ёй самой Канстытуцыяй будзе нададзены статус дзяржаўнасці. Тады не толькі карэспандэнты радыё і тэлебачання задавалі сваім суразмоўцам пытанні па-беларуску, яны імкнуліся і адказы атрымаць беларускамоўныя, вучылі людзей гаварыць на роднай мове, дамагаліся, каб яны ўзнаўлялі ў памяці забытыя "згукі бацькаўшчыны". Гэта было сапраўднае падзвіжніцтва, сапраўдны патрыятызм.

Даводзіцца канстатаваць, што ўсё засталося ззаду. Не кажучы пра патрыятызм, карэспандэнты тэлебачання ўсё часцей і часцей не выконваюць нават Закон аб мовах. Многія перадачы, у тым ліку інфармацыйныя, забаўляльныя, палітычныя, стракацяць чыста рускамоўнымі дыялогамі. Не толькі адказы, але і пытанні ў іх гучаць па-руску, як можна заўважыць, без усякай на тое патрэбы, бо ўсе людзі, што прымаюць удзел у перадачах, свае, тутэйшыя. Як правіла, такія перадачы толькі пачынаюцца і заканчваюцца невялікімі беларускамоўнымі ўступамі і заключэннем. Ды яшчэ можа песню беларускую нехта праспявае ў сярэдзіне. Паступовая тэндэнцыя да выцяснення беларускамоўных перадач і беларускага слова з экрана нацыянальнага тэлебачання працягваецца.

Усё больш адчувальнай становіцца такая тэндэнцыя і на радыё. Калі перадачы "Для веруючых і няверуючых" і "Паходня", якія нядаўна перайшлі на беларускую мову, не праяўляюць хістанняў, нягледзячы на спецыфічны кантынгент сваіх слухачоў, то інфармацыйна-папулярная праграма "Радыёфакт" усе дыялогі са сваімі суразмоўцамі, за вельмі рэдкім выключэннем, вядзе толькі па-руску. Зрэшты, у гэтым, можа, ёсць і заканамернасць, бо ў "Радыёфакце" рэгулярна гучаць галасы адкрыта антынацыянальных сіл, для якіх беларуская дзяржава і мова — пусты гук.

Не лепш, а можа, і горш складваюцца справы з дзяржаўнай мовай і ў прэсе. Практыка двухмоўя дала магчымасць дзесяткам старых і новых газет, фігуральна кажучы, начапіўшы беларускамоўную шыльду, выходзіць на рускай мове. У краіне існуюць толькі тры паўнацэнныя газеты на дзяржаўнай мове — "Звязда", "Літаратура і мастацтва" і "Свабода".

Калі ўсё грунтоўна ўзважыць і як след разважыць, дык непазбежна ўзнікае думка, што за пяць гадоў пасля надання беларускай мове статуса дзяржаўнай плёну ў гэтым кірунку дасягнута надзвычай мала. У сродках масавай інфармацыі, бясспрэчна, пазіцыі нават страчаны. Тут ідзе адступленне, а дакладней — адступніцтва. Старадаўняй мове шматмільённага народа адводзіцца роля дэкору, арнаменту, маляўнічых, але статычных узораў карункаў у канве рускай мовы. Такое стаўленне да мовы абмяжоўвае яе вялікія патэнцыяльныя магчымасці, падрывае яе жыццястойкасць, стварае ўмовы для паступовага і канчатковага выцяснення яе рускай мовай з усіх сфер ужывання.

**І. ІВАШКА**
*Стаўбцоўскі раён*

# ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ "ЛІМА"!

З гэтага нумара мы перастаём друкаваць праграму тэлебачання. Спадзяёмся, што вы зразумееце нас правільна: сёння яе друкуюць амаль усе выданні і, думаем, мала хто выпісваў "ЛіМ" адно дзеля тэлепраграмы. У шапікі ж "Саюздруку" трапляе мізэрная колькасць асобнікаў "ЛіМа" і арыентавацца на тых, хто купляў нашую газету з-за праграмы, таксама не выпадае. Больш таго, штотыдзень да нас прыходзіла некалькі лістоў, у якіх чытачы раілі і прасілі адмовіцца ад друкавання тэлепраграмы на карысць "звычайных лімаўскіх публікацый".

Што мы і робім.


ЛіМ — Літаратура і мастацтва. Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
**Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| Х.Дунец | (1932-35) |
| І.Гурскі | (1935-41) |
| А.Куляшоў | (1945-46) |
| М.Горцаў | (1947-49) |
| П.Кавалёў | (1949-50) |
| В.Вітка | (1951-57) |
| М.Ткачоў | (1957-59) |
| Я.Шарахоўскі | (1959-61) |
| Н.Пашкевіч | (1961-69) |
| Л.Прокша | (1969-72) |
| Х.Жычка | (1972-76) |
| А.Асіпенка | (1976-80) |
| А.Жук | (1980-86) |
| А.Вярцінскі | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Святлана БЕРАСЦЕНЬ
Міхась ЗАМСКІ
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ
Жана ЛАШКЕВІЧ
Алесь МАРЦІНОВІЧ
Барыс ПЯТРОВІЧ, *першы намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась СВІРКА
Віктар ШНІП, *намеснік галоўнага рэдактара*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск,
вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі -- *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара -- *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі -- *332-525*
пісьмаў і грамадскай думкі -- *331-985*
літаратурнага жыцця -- *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі -- *332-204*
паэзіі і прозы -- *332-204*
музыкі -- *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання -- *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- *332-462*
навін -- *332-462*
мастацкага афармлення -- *332-204*
фотакарэспандэнт -- *332-462*
бухгалтэрыя -- *268-640*

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»**
**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 11168.
Нумар падпісаны 23.1.1994 г.

Заказ 350
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12